


„Дзяды” па-беларуску!

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714



Ніўскія ўспаміны→9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 11 (3018) Год LIX | Беласток, 16 сакавіка 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Фестываль высыхаючай крыніцы




**Дваццаць шэсць калектываў выступілі на ўрачыстым гала-канцэрце XXI Фестывалю беларускай песні. Спецыяльным госцем быў Нацыянальны акадэмічны народны хор Рэспублікі Беларусь імя Генадзя Цітовіча, члены якога прадставілі вакальны, інструментальны і танцавальны рэпертуар і былі з энтузіязмам прыняты гледачамі, якія да краёў запоўнілі залу Падляшскай оперы і філармоніі. Традыцыйна, канцэрт адкрыла песня „Мой Беластоцкі край” (у выкананні Анны Бабік, Алы Каменскай і Марыюша Харужага) і скончыла песня-гімн „Люблю наш край”, у выкананні ўстаўшай публікі і ўсіх удзельнікаў, якіх, на жаль, не было відаць на сцэне за гасцямі з мінскага ансамбля.**

Ян Сычэўскі, старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства, арганізатара фестывалю, якраз перад канцэртам падзяліўся з „Нівай” думкай, у якім напрамку ідзе гэтая падзея, арганізаваная на працягу 45 гадоў, хоць першапачаткова не ў форме фестывалю:

— Няма тэндэнцыі кіраванай зверху. БГКТ не мае ўплыву на тое, хто якія песні спявае. Толькі конкурсная камісія мае свае заўвагі, і іх выканаўцы ўлічваюць або не. Прыкметная тэндэнцыя гэта кірунак сучаснасці, штораз менш сувязі з фальклорам. Я не буду казаць, што я задаволены гэтым. Беларускі фальклор Беласточчыны быў вельмі багаты і вельмі цікавы, а цяпер паволна высыхае, таму што сохне крыніца. Гэта трывожны факт. Іншай тэндэнцыяй з'яўляецца пераход да распрацаванага фальклору, пазыка матываў, мелодый іншых народаў (найбольш рускага і ўкраінскага — М. Х.). Гэта таксама не з'яўляецца станоўчай з'явай. Некаторыя групы карыстаюцца паслугамі інструктараў з Беларусі. І няма нічога дрэннага ў тым. Тым не менш, было б лепш, каб яны ўлічвалі тое, што з'яўляецца набыткам беларусаў тут, на Беласточчыне.

Маршалак Яраслаў Дваржанскі са сцэны павіншаваў удзельнікаў і арганізатараў.

— Мы паказваем Еўропе і ўсяму свету як два брацкія народы (польскі і беларускі — М. Х.) могуць мірна суіснаваць, — падкрэсліў. — Несумненна, падчас гэтага канцэрта будзем салідарызавацца з брацкім украінскім народам, каб усе праблемы патрапіў вырашыць такім чынам спрыяльным для яго, які дазволіць таксама яму жыць у нармальным, мірным свеце, выхоўваць дзяцей, будаваць росквіт сваіх сем'яў.

Пры нагодзе падзякаваў за сем гадоў супрацоўніцтва з Янам Сычэўскім у самаўрадзе Падляшскага ваяводства (Ян Сычэўскі ў бягучым тэрміне сейміка Падляшскага ваяводства з'яўляецца яго віцэ-старшынёй ад імя клуба СЛД). Маршалак (Грамадзянская платформа) звярнуўся да аўдыторыі, што прагучала ў духу маючай адбыцца выбарчай кампаніі:

— Я заклікаю, каб вы такіх людзей паважалі і дбалі аб іх, таму што дзякуючы, між іншым, такім людзям можам з надзеяй глядзець у будучыню.

Мастацкі кіраўнік існуючага з 1952 г. хору імя Генадзя Цітовіча Міхаіл Дрынеўскі на працягу многіх гадоў быў старшынёй журы падчас агульнапольскіх элімінацый фестывалю. У сувязі з хваробай у гэтым годзе зрабіў выключэнне:

— Мне заўсёды вельмі прыемна слухаць беларускую песню на польскай зямлі. З 1993 года кожны год я прысутны на фестывалі. Толькі сёлета мяне не хапіла. Песня з'яўляецца малітвай. Ніколі нікому не мяшае. Я ўвесь час слухаю тут чагосьці новага, як быццам чэрпанага з бязмежнай крыніцы аснаванай на беларускай нацыянальнай мудрасці.

Мудрасцю ў перараказе аповеду ў песні „Дзявочы лёс” і эмацыйнасцю выканання захапіла Марыя Врублеўская, салістка „Рассляванага Гарадка”, лаўрэатка першай прэміі ў катэгорыі фальклорнай аўтэнтычнай песні (субкатэгорыя: салісты):

— Аўтэнтычныя беларускія песні — наша багацце. Выканаўцы павінны браць хутчэй нашы песні, з нашага рэгіёна і, магчыма, папрасіць у інструктараў, каб іх апрацоўвалі. Існуе такая тэндэнцыя, што маладыя зараз саромеюцца сваёй беларускай мовы. Прыкра мне, што некаторыя з маладых выканаўцаў, спяваючы, вымаўляюць „л” так „па-сучаснаму”.

Надзейна спасылаецца на чыстую традыцыю сямейнае трыо з Макаўкі пад кіраўніцтвам Анны Пятроўскай (другая прэмія ў катэгорыі народнай аўтэнтычнай песні — субкатэгорыя: дуэты, трыо, квартэты, у якім першага месца не было):

— Аўтэнтычнага фальклору на фестывалі становіцца штораз менш. Так як менш і менш калектываў такіх як „Арэшкі” з Арэшкава, дзе на сцэну проста выходзяць бабулі і спяваюць песні сваіх бацькоў і дзядоў. Мы таксама збіраем нашы песні ад бабуль.Спяваем фальклор у аўтэнтычнай форме, рэгулюючы толькі песні для нашых галасоў. Калі не мы, маладыя людзі, будзем займацца аўтэнтычным фальклорам, дык хто, калі старэйшых калектываў усё менш і менш. Фальклор кажа нам пра каханне, пра долю і нядолю, нашае мінулае. Трэба працягваць яго.

Элегантнасцю выканання і глыбокім гучаннем захапіў публіку хор з Дома праваслаўнай культуры ў горадзе Бельск-Падляшскі. Іх лірычная казачая песня „Каліна-маліна” заняла першае месца ў катэгорыі апрацаванай народнай песні (хары). Веслава Лашчук, сяброўка хору:

— Прымаем удзел у гала-канцэрце другі раз. У мінулым годзе таксама атрымалі мы першае месца ў нашай катэгорыі. Наш хор з'яўляецца незвычайным таму, што харысты спяваюць у парафіяльным хоры ў бельскай царкве Нараджэння Прасвятой Дзевы Марыі. Настаяцель прыхода а. Юры Багацэвіч з'яўляецца таксама дырэктарам Праваслаўнага дома культуры. Мы стварылі пры ім хор, які выконвае свецкія песні. На цэнтральных элімінацыях мы выйгралі «Калінай-малінай», распрацаванай для чатырох галасоў нашай дырыжоркай Мартай Зінкевіч.

На казацкую ноту спяваў таксама хор «Оморфос» з Сямятыч. Іх песня „Ехалі казакі” заняла першае месца ў катэгорыі народнай апрацаванай песні (вакальныя калектывы). На працягу чатырох гадоў спявае ў ім дзевяць жанчын. Яны ад многіх гадоў ведаюць адна адну:

— Проста ў гэты спосаб любім праводзіць вольны час, — кажуць ва ўнісон.

Публіка горача прыняла, між іншым, дэбютуючы ў фестывалі „Жар” з Сарнак, які выканаў песню „Цячэ вада ў ярок». У катэгорыі апрацаванай народнай песні заняў ён другое месца (катэгорыя: вакальныя і інструментальныя групы, першага месца не было). Яго членамі з'яўляюцца чатыры дзяўчыны і трох мужчын з Добраахвотнай пажарнай каманды ў Сарнаках, па паходжанні палякі. Старшыня сарнацкіх пажарнікаў, а таксама лідар калектыву Генрык Мулэнка:

— Першая задума аб стварэнні калектыву ўзнікла тры гады таму. У час аднаго інтэграцыйнага кастра нашы дзяўчаты з пажарнай каманды пачалі спяваць, і я пачаў іх суправаджаць ды жартам сказаў, што можам стварыць калектыў. У траўні мінулага года ўпершыню мы выступілі ў Сямятычах на аглядзе пажарніцкай песні. Я патэлефанаваў у БГКТ і мне сказалі, што ахвотна нас пабачаць на адборачным фестывалі, хоць мы з іншага ваяводства, з Мазавецкага. Мы падрыхтавалі «Купалінку» і песню-пераможцу, у навейшых версіях. Пасля фестывалю не спынім спяваць беларускх песень. У нашым рэгіёне людзі вельмі хочуць іх слухаць.

У сучасным рэпертуары выступіла м.інш. Рэната Тушынская з Гайнаўскага дома культуры (першае месца ў субкатэгорыі салістаў разам з Дар'яй Маркевіч, таксама з Гайнаўкі). Так, як пажарнікі з Сарнак, яна таксама не з'яўляецца беларускай. Вучылася ў Гайнаўскім беларускім ліцэі. Захапіла журы ў элімінацыях песняй „Неба на двах”:

— Выбіраю песні, якія адпавядаюць майму голасу і маёй індывідуальнасці. Я падрыхтавала дзве песні: хуткую і павольную; перамагла павольная. Ужо некалькі добрых гадоў з камандай ГДК прымаем удзел у фестывалі беларускай песні, вельмі нам на ім падабаецца. Беларуская мова вельмі меладычная і прыемная для спеву. Я проста ідэнтыфікую сябе з ёю.

Нязначным ценем на гала-канцэрце паклаўся той факт, што арганізатары ад ПОіФ не забяспечылі выканаўцам вешалак у гардэробах, а месца ў аўдыторыі, забранаванае архірэю Беластоцка-Гданьскай епархіі архіепіскапу Якаву было занятае. Гэта, аднак, не паўплывала на ход сапраўднага свята беларускай песні, якое доўжылася амаль тры з паловай гадзіны.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА





# Урокі гісторыі

Гэта пазней была вызначана дата пачатку Першай сусветнай вайны ды і назвалі яе так толькі пасля Другой сусветнай. А напачатку гэта было толькі жорсткае і цынічнае забойства аднаго чалавека — хоць і вельмі ўплывовага, але аднаго. Хто б мог падумаць тады, у якія ахвяры і пакуты гэтае забойства выльецца. Тады сапраўды было даволі цяжка гэта прадказаць. Не было яшчэ гістарычнага досведу як пачынаюцца і да чаго прыводзяць сусветныя войны. Свет імкліва і незразумела мяняўся пад уплывам новых ідэалогій, а барацьба арганізацыі „Млада Босна", да якой і належаў забойца, многімі ўспрымалася як натуральная. Грунтавалася яна на аптымістычных лозунгах аб'яднання ўсіх паўднёвых славян у адну вялікую краіну. Усяго толькі. Ідэя як ідэя. А вось метады рэалізацыі...

Зараз жа ў адну вялікую краіну нехта хоча аб'яднаць усіх усходніх славян. І гэтая ідэя на першы погляд здаецца не больш небяспечная, чым у „Млада Босна". Розніца, хіба што, толькі ў геаграфіі. А вось метады, напэўна, застаюцца тыя ж. І як вынік, такімі ж могуць стаць і наступствы, калі своечасова не прыкласці сілы ўсяго чалавецтва, каб іх пазбегнуць.

Напрыклад, Другой сусветнай вайны можна было калі не пазбегнуць, то хоць прадказаць яе непазбежнасць, ці нават супакоіць агрэсара спачатку. Гістарычны ж досвед ужо быў ад Першай сусветнай. І ахвяр тады магло б быць менш. Але пакуль III Рэйх збіраў у адну вялікую краіну гэтым разам усё нямецкае насельніцтва, еўрапейскія палітыкі сапраўды пачатак вайны праспалі. Можа таму яе афіцыйным пачаткам лічыцца дата, калі ўжо былі пад фашысцкім ботам і чэхі, і аўстрыйцы, а будучыя ахвяры гітлерызму зачынялі на гэта вочы падпісанымі з Германіяй дамовамі пра ненападзенне.

Агрэсара ўтаймавалі толькі заплаціўшы за сваю нядбайнасць жудасны кошт. Таму вялікім гэтага свету, ад каго залежаць рашэнні, хіба трэба ў будучым быць больш пільнымі. Але як трапна падмеціў адзін мудрэц, гісторыя вучыць толькі таму, што нічаму не вучыць. Ці то гісторыкаў ніколі да ўлады не допускаюць, ці то далезшы да ўлады гісторыкі гісторыю забываюць адразу і назаўсёды. Гістарычных аналогій і параленяў вялікія гэтага свету бачыць не жадаюць, хоць гэтымі гістарычнымі прыкладамі ім ужо даўно ў вочы тыкаюць.

І нават зараз, калі ўсходняя баявая тэхніка топча ўкраінскую зямлю, заходні свет працягвае ўгаворваць расійскае кіраўніцтва не ўводзіць ва Украіну войскі. Але ж яны ўжо даўно там! Якая б не была ідэя іх прыходу, метады ўводзяць у стан жаху.

Яны ідуць без сцягоў, без пагонаў, без іншых вайсковых знакаў... Стары савецкі прыёмчык. Некалі і мяне паслалі служыць у Чэхаславакію, і каб схаваць, што там ёсць спецыяльныя дэсантныя войскі, загадалі зняць дэсантныя мундзіры. Толькі нашыя камандзіры тады не паслухаліся начальства. Наверх адрапартавалі, што загад выкананы, а нам сказалі пагонаў не чапаць, цыльняжак не здымаць, берэтамі ганарыцца, бо жаўнер без мундзіра, гэта не жаўнер, а бандыт. Ён не мае вайсковай славы, не мае вайсковага гонару, адвагі, ідэі... Нічога не мае. Нават Радзімы не мае. А толькі як бандыт будзе дрыжаць за сваю скуру і крыўдзіць слабых ды нявінных.

І праўду казалі. Зараз самі бачым, як галоўнакамандуючы Расіі, ён жа і кіраўнік яе, разам з міністрам узброеных сіл адмовіліся ад сваіх беспагонных салдат, заявіўшы, што іхных ваякаў там няма. Маўляў, нейкія людзі са зброяй лазяць, але гэта не расійскае войска. Ну і праўда. Ці ж можна называць войскам узброеныя атрады без вайсковай ідэнтыфікацыі, дзе нават твары ваякаў адмыслова схаваныя ад цывільнага насельніцтва. Сапраўдныя афіцэры ад такога сораму маглі б застрэліцца.

Зрэшты, не пра іх цяпер, бо ваенныя ўжо нічога не вырашаюць. Працэс пайшоў. І чым закончыцца расійска-ўкраінскі канфлікт залежыць зараз выключна ад палітыкаў. Ад тых палітыкаў, якім гісторыя на папярэдніх прыкладах паказвае чым можа ўсё скончыцца. Толькі ці застаўся ў іх час, каб пачытаць гістарычны падручнік.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Апакаліпсіс закамянеласцей

Канцам свету няма канца. Бясконца турбуюць яго розныя канцы. Пачынаючы з раннегістарычнага Патопу, апісанага ў кнізе Гільгамеша, праз адкрыцці святога Іаана, і да сучаснага часу, па-ранейшаму чакаем нейкага канчатковага канца. Можна задумацца над гэтай чалавечай патрэбай канца. Гэтае галубленне вынішчэння. Апакаліпсіса. Татальнага самазнішчэння. Або можа быць, казаўшы лічбавай мовай, гэта толькі патрэба скіду — у Польшчы вядомага яшчэ да эпохі камп'ютараў пад назвай «тоўстая рыса». Сапраўды, гэтая атавістычная неабходнасць скінуць бясслаўнае мінулае, верагодна, адзіная прычына для таго, каб не саромецца назвы чалавека. Сярэднявечныя шаленствы Інквізіцыі, незлічоныя войны, зневажаючае чалавечую годнасць рабства дзевятнаццатага стагоддзя, Галакост, ГУЛАГ або нядаўні генацыд у Сірыі паказваюць, што разбурэнне і жорсткасць з'яўляюцца рухаючай сілай усіх мінулых і цяперашніх цывілізацый, адзінак і грамадстваў. Скід (рэсет) з'яўляецца адзіным спосабам, каб не шукаць вінаватых сярод вінаватых, аддзяляць вінаватых ад нявінных, пасіўных ад актыўных; зноў дзяліць, перасварваць, падбухторваць да гвалту. У пэўным сэнсе кожны нясе віну за прысутнае ў яго існаванні зло. Яго крыніца б'е з малых недаглядаў, духоўнай ляноты, невуцтва, абыякавасці, эгаізму і баязлівасці. Нельга забываць, што малое зло каля свайго вусця коціцца крывавымі рэвалюцыямі, войнамі, масавымі забойствамі. І тады ўжо ёсць Вялікі акіян пакут. Патрэба скіду настолькі добрая ў той меры, што вынікае з падсвядомага пачуцця віны кожнага з нас, што мы не зрабілі ўсяго, што ў нашых сілах, каб прадухіліць выяўленае зло. Якое-небудзь зло. Іншая справа, што скід разуметы як Апакаліпсіс, які мае быць справядлівым пакрыццём нашых він, не вырашае асноўнай дылемы: хто вінаваты, хто павінен быць пакараны.

Шмат гадоў таму ва Украіне многа прыхільнікаў здабыла секта «Белае брацтва», якая прадказала канец свету. Меў ён адбыцца 24 лістапада 1993 года. Нічога апакаліптычнага не адбылося, не лічачы таго, што пасля заканчэння крайняга злавеснага тэрміну аб украінскай секце слых прапаў. Хоць па-ранейшаму варажба брацтва мелася дастаткова добра. Хоць свет усё яшчэ кружыў у бясстрасным абароце, тое прадказанне канца спела ва Украіне павольна, але паслядоўна. Нарэшце выявілася на кіеўскім Майдане. Мабыць, не было настолькі відным, як хто спадзяваўся, але і так ускалыхнула асновамі свету. Па крайняй меры, постсавецкага, які ўжо даўно аддаў Гісторыі свае жывічныя сокі і калі зноў убачыў свет ва Украіне, Расіі і Беларусі, дык у выглядзе выкапнёвых інклюзій, у якіх застылі старажытныя істоты: Януковіч, Пуцін і Лукашэнка. І, вядома, яны не адзіныя.

Савецкі менталітэт проста прапаласкаць з гэтых грамадстваў як падпаверхневыя залежы скамянелай жывіцы. Сярэдні беларус, рускі і ўкраінец яшчэ сумуе па часе СССР. У большасці такое стаўленне паказваюць старэйшыя пакаленні. Але таксама гэтыя новыя не вольныя ад пралогікі чалавека з віду Homo sovieticus. Гэта немагчыма вось так сабе скінуць, таму што гэта глыбока ўкаранёнае ў грамадскім менталітэце. Савецкі чалавек па вызначэнні з'яўляецца адным з неграмадзянскіх відаў. Ён характарызуецца перш за ўсё бяздзейнасцю ў адносінах да ўлады. Пасіўнасцю да яе аўтарытарызму, пыхі ды пагарды да чалавека. Homo sovieticus паважае ўладу за яе ўсемагутнасць над кожнай асобнай асобай. І менавіта таму, што асобнай, рускае, беларускае і да нядаўняга часу ўкраінскае грамадствы не мелі якасці грамадзянскага, то-бок, адказнай за сябе як цэласць супольнасці.

Украінскі выпадак, аднак, паказвае, што патэнцыял грамадзянскай супольнасці жывы ў кожнай нацыі. Рускай і беларускай таксама. Гэта ўсяго толькі пытанне часу, калі ў іх прачнецца грамадзянская адказнасць. Без сумневу, гэта будзе час Адкрыцця, але на меру скіду для імперскіх, звышдзяржаўных, эгаістычных, прымітыўных, халуйскіх амбіцыек маленькіх паразітаў замарожаных у постсавецкай закамянеласці. Нікому ж не мроіцца канец свету. Хіба што гэта свет застылы ў часе. У даўно мінулым часе. Калі тады — так яно і ёсць.

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Акругі падзелу

Тыдзень таму я пісаў тут аб прапанове новага падзелу на выбарчыя акругі маршалка Падляшскага ваяводства Яраслава Дважанскага. Паводле яе мае быць выканана ўмова новага Выбарчага кодэкса, у якой гаворыцца: „Спалучэнне паветаў не можа парушыць сацыяльных сувязей, якія злучаюць выбаршчыкаў, што належаць да нацыянальных або этнічных меншасцей, якія пражываюць на тэрыторыі аб'яднаных паветаў». Такім чынам — як кажа маршалак — яна адпавядае чаканням выбаршчыкаў беларускай меншасці. Тым часам, СЛД і самаўрадаўцы Гайнаўскага павета працягваюць прапанаваць, каб была створана акруга, якая ахапіла б Беластоцкі земскі, Бельскі, Гайнаўскі і Сямятыцкі паветы. Вось некаторыя думкі, якія ў гэтым выпадку я быў у стане сабраць. Ян Сычэўскі, старшыня БГКТ, віцэ-старшыня Падляшскага сейміка ад СЛД: „Калі справа ў Высока-Мазавецкім ці Замбраўскім паветах, я не бачу ніякай карэляцыі з палітычнымі інтарэсамі беларускай нацыянальнай меншасці, і нават наадварот. Я быў бы за лепшым падзелам, як гэта было прапанавана СЛД".

Падляшскі дэпутат ад СЛД, віцэ-старшыня парламенцкай камісіі па нацыянальных і этнічных меншасцях Яўген Чыквін: „Я лічу, што рашэнне, якое было прадстаўлена спадаром маршалкам, усё яшчэ супярэчыць палажэнням Кодэкса аб выбарах. Будучы ў такой акрузе грамады, якія адна з адной не маюць ні культурных, ні нацыянальных, ні рэлігійных, эканамічных ці сацыяльных сувязей".

Яўген Вапа, старшыня Беларускага саюза ў Польшчы: „Гэта цалкам штучная канструкцыя, якая не мае ніякіх агульных традыцый і гістарычнай супольнасці. Гэта гулянне выбарчымі акругамі для таго, каб атрымаць меншы або большы лік радных. Гэта бачанне спадаром маршалкам, раднымі і іншымі палітыкамі вузкага інтарэсу, каб увесці як найбольш радных, а не бачанне таго з пункту гледжання пэўнай этнічнай цэласнасці прасторы, што вызначаецца ў законе. Гайнаўскі, Бельскі і Сямятыцкі паветы павінны быць самастойнай акругай. Мы чакаем як будуць выказвацца радныя і як будзе выглядаць галасаванне".

Па словах Марка Камароўскага, старшыні клуба ПіС у Падляшскім сейміку „няма ніякіх падстаў для змены існуючых акруг". Управа падляшскага ПСЛ выдала ў гэтай справе аднагалосную заяву, у якой таксама выступае за тое, каб нічога не мяняць.

Пасля сустрэчы з маршалкам Дважанскім камісара беластоцкай дэлегатуры Краёвага выбарчага бюро Марэк Рыбнік сказаў «Ніве»: „Маршалак выкарыстаў мяне, каб пераканаць іншых членаў управы ў правільнасці гледжання па гэтым пытанні. Я павінен быў пераканаць усю ўправу да неабходнасці аналізу існуючага падзелу. Камісар па выбарах, маршалак і ваявода атрымалі лісты ад Дзяржаўнай выбарчай камісіі і Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі, якія паказваюць на неабходнасць прыцягнуць увагу да існуючых падзелаў і магчымага ўнясення паправак. Я змог пераканаць членаў сейміка, што такая неабходнасць сёння існуе, падкрэсліваю — неабходнасць перагляду. Неабавязкова высновы актывістаў меншасцей ці некаторых палітычных партый, у дадзеным выпадку СЛД, адпавядаюць становішчу і патрэбам насельніцтва гэтых абшараў. Я гасцяваў жыхароў адной з гмін Бельскага павета, якія не бачаць такой неабходнасці і кажуць, што на іх тэрыторыі вельмі мала прадстаўнікоў беларускай меншасці, і што часта ўзаемазаменна выкарыстоўваецца тэрмін меншасць у адносінах да беларусаў і праваслаўных. Гэта не прадвызначана і сказана, што маршалак будзе настолькі пераканаўчым, што радныя сейміка прымуць рашэнне аб новым раздзеле выбарчых акруг. Некаторыя прапановы па размеркаванні ідуць вельмі далёка, каб вылучаць часткі паветаў, напрыклад Беластоцкага і Сямятыцкага і прытым уключаць цэлы Гайнаўскі павет і апошнія і з гэтага стварыць адну акругу. Магчыма, што з пункту гледжання беларускай меншасці гэта рацыянальна, але правілы не дазваляюць гэтага".

Адзначыў: „Прапанова аб стварэнні такой суперакругі, складзенай з паветаў: Беластоцкага земскага, Бельскага, Гайнаўскага і Сямятыцкага найбольш магчымая. І прапанова гэтая, і маршалкава, адпавядаюць Кодэксу аб выбарах і з'яўляюцца прымальнымі. Калі гаворка ідзе аб магчымым абскарджанні рашэння сейміка, выбарчы камісар (Марэк Рыбнік — М. Х.) стане перад выбарам меншага зла. Можа быць, мне давядзецца зрабіць жараб'ёўку. На дадзены момант я не ведаю, якое рашэнне я прыняў бы. У любым выпадку, буду прасіць абгрунтавання і ўліку дэмаграфічныя даныя".

Падляшскі ваявода Мацей Жыўна сказаў: „Прапанова маршалка з'яўляецца прадметам для абмеркавання на рэгіянальным сейміку, які — я спадзяюся — прывядзе да добрага рашэння. Як кожная пастанова сейміка, таксама і гэтая будзе падлягаць фармальна-юрыдычнаму нагляду ваяводы».

Згодна паведамленню маршалка Дважанскага, дыскусія аб падзеле акруг у Падляшскім ваяводстве адбудзецца на сесіі сейміка ў красавіку або траўні.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**




фота Марыюша ГЭРЭЗА

Калектыў беларускай народнай песні «Маланка»




фота Аляксея МАРОЗА

Беларускі хор песні і танца «Васілёчкі»

# Бельскія мастацкія кліматы

Пры Бельскім доме культуры дзейнічаюць музычныя калектывы, якія прэзентуюцца падчас гарадскіх мерапрыемстваў і з'яўляюцца амбасадарамі Бельска-Падляшскага ў краіне і па-за яе межамі. Былы дырэктар БДК Сяргей Лукашук стаў арганізаваць «Бельскія мастацкія кліматы», падчас якіх перад мясцовай публікай хары і калектывы БДК паказваюць вынікі сваёй дзейнасці на працягу апошняга года. Гэтую традыцыю працягвае цяперашняя дырэктар БДК Малгажата Біль-Ярузельская. 28 лютага, напярэдадні Вялікага посту, у «Бельскіх мастацкіх кліматах» выступілі калектывы, якія займаюцца ў мясцовым доме культуры. Такім чынам працаўнікі Бельскага дома культуры падвялі вынікі дзейнасці сваёй установы, а асобам, якія ўспамагаюць дзейнасць БДК, былі ўручаны ўзнагароды. Перад бельскай публікай гучалі песні, а пасля афіцыйных выступленняў былі яшчэ гасцяванне і танцы, паколькі быў гэта час запустаў.

Першым вельмі ўдала запрэзентаваўся на сцэне калектыў беларускай народнай песні «Маланка». Гэты вакальна-інструментальны калектыў адразу развесяліў публіку, выконваючы меладычныя беларускія песні.

— Сёння мы выступілі з песнямі, якія спявалі на сёлетнім фестывалі «Беларуская песня», дзе ў катэгорыі вакальна-інструментальных калектываў занялі першае месца. Заспявалі таксама мінулагодні творы, калі «Маланка» на гэтым жа фестывалі заняла таксама першае месца. Нашае мужчынскае трыо ў мінулым годзе заняло першае месца, але сёлета хлопцы прыхварэлі, ахрыплі і занялі трэцяе месца, — заявіў музычны кіраўнік «Маланкі» Сяргей Лукашук. — У гэтым годзе плануем выдаць чацвёрты кампакт-дыск з нагоды юбілею «Маланкі», бо ў наступным годзе плануем адзначаць 25-годдзе. Зараз у нашым калектыве выступае 16 асоб, у тым ліку 7 асоб складае інструментальная капэла.

— Сённяшняе мерапрыемства інтэгруе спевакоў з розных калектываў, а публіцы дае магчымасць паглядзець розных выканаўцаў, — сказалі Яўгенія Барысюк і Анна Паплаўская, якая займаецца з «Маланкай» толькі з верасня мінулага года.

— У нас атмасфера, як у сям'і, таму часта выступаем на розных мерапрыемствах, — заявіў арганізацыйны кіраўнік «Маланкі» Канстанцін Селевановіч і разам з іншымі спевакамі стаў пералічваць шматлікія месцы ў Беларусі, дзе калектыў выступаў і захапляў тамашнюю публіку.

На мерапрыемства прыбыў выконваючы абавязкі бурмістра Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі, які сказаў, між іншым:

— Наш горад разнародны ў нацыянальным плане і гэтую разнароднасць відаць сёння на сцэне. Добра, што ў нашым доме культуры займаюцца асобы ў розным узросце і цешыць, што музыкай і спевам займаюцца вучні. Паколькі беларусы з Бельска і наваколля асабліва любяць спяваць, у Бельскім доме культуры дзейнічаюць ажно тры беларускія музычныя калектывы: «Васілёчкі», «Маланка» і «Куранты».

У час мастацкіх кліматаў побач беларускіх калектываў цікава запрэзентаваліся хор польскай нацыянальнай песні, украінскі калектыў песні і танца «Ранок» і студыя песні «Фарт». З беларускім рэпертуарам выступае таксама тэатральны калектыў «Антракт», які нядаўна ў доме культуры арганізаваў свае «Тэатральныя запусты». Варта напомніць, што ў час Агляду вясковых і абрадавых тэатраў Падляшскага ваяводства, які 21 і 22 лютага гэтага года адбыўся ў Ломжы, «Антракт» здабыў першую ўзнагароду. Беларускія вакальныя калектывы дзейнічаюць таксама ў бельскіх школах і непублічным прадшколлі. Па ліку іх нават там больш, чым у Бельскім доме культуры, бо толькі ў бельскай «тройцы» дзейнічае больш за пяць беларускіх гуртоў.

— Мы рады, што наш «Антракт», паказваючы «Рагулькі», заняў першае месца на аглядзе ў Ломжы. Там мы займалі ўжо першыя месцы і ў мінулых гадах, — сказала кіраўнік «Антракта» Альжбета Фіёнік. — Дзеткі ў тэатральным калектыве дэкламуюць па-беларуску, выступаюць з фальклорнымі пастаноўкамі, што паказалі ў час «Тэатральных запустаў».

Беларускі хор песні і танца «Васілёчкі» падчас «Бельскіх мастацкіх кліматаў» запрэзентаваўся дастойна і на высокім мастацкім узроўні.

— Мы ўжо рыхтуемся да 50-годдзя дзейнасці «Васілёчкаў». Юбілей будзем адзначаць восенню гэтага года. Праз наш хор правінуліся сотні людзей, далі мы шмат канцэртаў, — заявіў Уладзімір Весялоўскі, звязаны з хорам ад пачатку яго дзейнасці.

— Атмасфера ў нашым калектыве добрая. Выступаем найчасцей з апрацаванымі народнымі і аўтарскімі беларускімі песнямі. Мы — адзіны беларускі хор на Беласточчыне, які апрача спявання прэзентуе танцы і гэта галоўная нашая адметнасць, — сказаў музычны кіраўнік «Васілёчкаў» Мікола Фадзін. — Я даю акампанемент для хору на баяне, а Юры Дземянюк — на бубне.

„Наш горад разнародны ў нацыянальным плане і гэтую разнароднасць відаць сёння на сцэне. Добра, што ў нашым доме культуры займаюцца асобы ў розным узросце і цешыць, што музыкай і спевам займаюцца вучні. Паколькі беларусы з Бельска і наваколля асабліва любяць спяваць, у Бельскім доме культуры дзейнічаюць ажно тры беларускія музычныя калектывы: «Васілёчкі», «Маланка» і «Куранты».“

— Мы выступалі ў Беларусі, часта спяваем перад публікай на Беласточчыне. Песні ўспамагаем танцамі, якім вельмі ўдала вучыць нас Людміла Фадзіна, — гаварыла салістка хору «Васілёчкі» Валянціна Каляда. — Нам крыўдна, што ў час цэнтральных элімінацый фестывалю «Беларуская песня» камісія прызначыла нам толькі трэцяе месца.

У час цэнтральных элімінацый сёлетняга фестывалю «Беларуская песня» мужчыны з бельскіх «Курантаў» таксама занялі трэцяе месца.

— Мы на дзесяць гадоў нашай дзейнасці ажно сем разоў займалі першыя месцы на фестывалях «Беларуская песня» і таму я лічу, што сёлета мы нічога не дабіліся, — сказаў Павел Лемеш з «Курантаў».

Падчас мерапрыемства падводзіліся таксама вынікі дзейнасці трох мастацкіх гурткоў Бельскага дома культуры.

— У адным гуртку займаюцца дзеткі ва ўзросце да 12 гадоў, у другім мастацтву вучыцца гімназічная і звышгімназічная моладзь, а ў трэцім гуртку займаюцца дарослыя. Разам у рабоце гурткоў прымае ўдзел каля 30 асоб, — сказала кіраўнік мастацкіх гурткоў Марыя Бабулевіч.

У час мерапрыемства былі ўручаны званні «Сябра Бельскага дома культуры». Атрымалі іх Юры Анджэюк, надляснічы Бельскага надлясніцтва і бельскія прадпрымальнікі — Ян Мікалушка, Анеля Пячынская ды Галена і Міраслаў Бужынскія. Гэтым асобам дырэктар БДК Малгажата Біль-Ярузельская перадала таксама ва ўзнагароду карціны з анёламі, якія намалявала кіраўнік мастацкіх гурткоў Марыя Бабулевіч. Размовы з удзельнікамі мерапрыемства сышлі таксама на інвестыцыйную тэму. Ужо некалькі гадоў вядзецца падрыхтоўка да будовы сучаснага Бельскага культурнага цэнтра.

— Праект Культурнага цэнтра ў Бельску быў выкананы яшчэ некалькі гадоў таму, калі я быў дырэктарам Бельскага дома культуры. На месцы будынка кіно запланавана вялікая канцэртная зала з балконамі на 400 месц, з вялікай сцэнай. На аснове сённяшняй высачэзнай канцэртнай залы прадбачваюцца дзве меншыя залы, на двух паверхах, для тэатральных выступленняў, меншых канцэртаў і сустрэч. Колькі разоў мы не выступалі за атрыманне вонкавых сродкаў на будову культурнага цэнтра, заўсёды ў конкурсах не хапала на некалькі балаў, каб атрымаць сродкі. Так было і ў гэтым годзе, — сказаў былы дырэктар БДК Сяргей Лукашук.

— Нядаўна мы даведаліся, што не хапіла нам 5 балаў, каб атрымаць нарвежскія сродкі на будову культурнага цэнтра. Мы абскардзілі гэтую пастанову, нам дабавілі толькі 1 бал і так засталіся без вонкавых сродкаў. Будзем мяняць бюджэт горада на гэты год, бо былі там адкладзены ўласныя сродкі на дафінансаванне інвестыцыі. Прадбачаем, што будова цэнтра будзе каштаваць 17,5 мільёна зл., з чаго мы прадугледзелі выдаткаваць 3,5 млн. зл. уласных сродкаў і 14 млн. зл. вонкавых грошай, — заявіў бурмістр Бельска Яраслаў Бароўскі. — Хочам яшчэ выступіць за вонкавымі сродкамі на гэтую інвестыцыю ў рамках Рэгіянальнай аператыўнай праграмы. Пабачым, як з гэтым атрымаецца.

**Аляксей МАРОЗ**

## Жаваранак Марыя Мароз



31 студзеня 2014 года адышла ў вечнасць і назаўсёды пакінула зямныя турботы спявачка і адначасова салістка калектыву „Жаваранкі", што ў Махнатым, спадарыня Марыя Мароз. Яшчэ разам спявалі мы на Піліпаўскія запусты ў Махнатым, потым спатыкаліся ў клубе на рэпетыцыі калядак, рыхтаваліся на фестываль беларускай песні — Маруся падрыхтавала сола цудоўную песню „Нёман". Аднак у снежні наша дарагая сяброўка трапіла ў гайнаўскую бальніцу. Проста былі нейкія недамаганні і трэба было паставіць дыягназ, каб вылечыцца. Ніхто не спадзяваўся, што гэта будзе Яе апошні шлях.

Спадарыня Марыя гэта незвычайная асоба, адораная Богам асаблівым талентам — спевам. Яе голас не быў школены ў музычных установах, але прыродны, натуральны, плыў з глыбіні сэрца, звінеў лірычна з элементамі трагізму. Сваім анёльскім галаскомупрыгожвала багаслужбы ў царкве св. Іаана Багаслова ў Новым Беразове ўжо ад маладых дзявочых дзён, а калі ў красавіку 2011 года ўзнік калектыў у Махнатым, стала яго галоўным членам. Як жа добра было з Ёю спяваць разам і як прыемна было слухаць Яе сольныя песні! Кожны раз публіка ўзнагароджвала Яе гучнымі воплескамі.

Спадарыня Марыя — гэта крыніца народнай беларускай песні. Спявала на нашай беларускай гаворцы, так як нашыя продкі на абшарах Гайнаўшчыны. Гэтую незвычайную спявачку „адкрыў" інструктар калектыву Пётр Скепка — фанат аўтэнтычнай беларускай песні.

Спадарыня Марыя была вельмі ўражлівай, скромнай, інтэлігентнай і цёплай. Ніколі не ўзвышалася, не гаварыла дарэмшчыны, выказвала толькі сэнсоўнае і каштоўнае, заўжды паводзіла сябе як праўдзівая дама.

На жаль, прыйшлося нам быць разам у калектыве „Жаваранкі" няцэлыя тры гады. Можна было яшчэ так многа зрабіць! I раптам усё перарвалася, а мы засталіся ў вялікім жалю і болю. Як жа гэта перажыць?..

Вечная Табе памяць, дарагая Маруся. Паглядай там у вышыні на нас і памагай. Не ўспелі мы нацешыцца нашым сяброўствам.

**Члены калектыву „Жаваранкі" з Махнатага**

## Конкурс вышыўкі

Гайнаўскі дом культуры (ГДК) запрашае мясцовых народных творцаў да ўдзелу ў конкурсе «Гафт і карункі Гайнаўскага павета — 2014». Прымаюцца ад 3 да 5 прац выкананых уручную рознымі тэхнікамі гафту — да 21 сакавіка 2014 года.

Выстаўка найлепшых прац прадбачваецца 12 красавіка гэтага года. Журы прысвоіць памятныя дыпломы, узнагароды і вылучэнні. ГДК традыцыйна ўжо падрыхтуе каляровую кніжачку «Гафт і карункі Гайнаўскага павета» з фатаграфіямі найлепшых прац і з прозвішчамі іх аўтараў.

Па дэталёвую інфармацыю пра агляд можна зайсці ў Дом культуры ў Гайнаўцы па вуліцы Тамары Саланевіч, 4 або пазваніць па тэлефоне 85 682 32 03 у гадзінах працы ГДК. **(яц)**

# Кляшчэлеўскія астаткі

2 сакавіка Гарадскі асяродак культуры, спорту і адпачынку ў Кляшчэлях арганізаваў мерапрыемства з нагоды Міжнароднага дня жанчын. Паколькі ў абвестках на сайце арганізатары рэкамендавалі цікавую мастацкую частку, неабходна было пакарыстацца нагодай. Надвор'е паспрыяла для веласіпеднай вандроўкі. Падарожжа з Кузавы ў Кляшчэлі заняло мне не больш чым сорак мінут...



Мерапрыемства пачалося пятнаццаць хвілін пасля 14 гадзіны. Вядучая Антаніна Барысюк перш-наперш запрэзентавала спонсараў, якія ўспамаглі Гарадскі асяродак культуры ў арганізаванні імпрэзы. Пасля бургамістр Ірэна Негярэвіч прывітала гасцей: рэктара Вышэйшай менеджарскай школы ў Беластоку Міхала Лісоўскага, войта Мілейчыцкай гміны Гражыну Яшчук, дырэктара школы ў Андрыянках Еву Літэўніцкую, радных і солтысаў Кляшчэлеўскай гміны ды шматлікую публіку. Затым пазнаёміла з планам сёлетніх інвестыцыйных задач. У заканчэнні заявіла:

— Сёння адзначаем Міжнародны дзень жанчын. Традыцыйна святкаванні праходзяць 8 сакавіка. Паколькі з заўтрашняга дня пачынаецца пост, дык перавялі мы святкаванні на ранейшы тэрмін, каб пагуляць пры музыцы.

Са святочнымі віншаваннямі выступілі рэктар Вышэйшай менеджарскай школы Міхал Лісоўскі і лідар „Падляшскай капэлы" Марк Скамароўскі. Свае вершы, прысвечаныя жанчынам, чытаў Анатоль Ніканораў.

— Усмешкі, міру і радасці штодзень, шчасця і моцнага здароўя, — віншаваў жанчын лідар капэлы Марк Скамароўскі. — Калі царыць будуць радасць, любоў, вясёлая ўсмешка і мір, дык жыццё наша будзе лягчэйшым...

Мастацкая частка пачалася з выступлення „Падляшскай капэлы" песняй „Дванаццаць лісточкаў". У ходзе амаль двухгадзіннага канцэрта наперамен выступалі мясцовыя самадзейнікі і госці з Беларусі. А была гэта дэлегацыя працаўнікоў Дома культуры ў Раснай Камянецкага раёна: дырэктар Дзяніс Раманюк, мастацкі кіраўнік дзіцячага калектыву Ларыса Нічыпарук, харэограф Наталля Данілюк, настаўніцы музычнай школы, якія складаюць вакальны квартэт: Ірына Грынёва, Аксана Цімош, Наталля Іўковіч і Анна Сцепановіч ды салістка Юлія Патэйчук. Мясцовы ГАКСіА прадставілі салістка Сільвія Камінская і маладзёжны гурт „Фантазія" пад кіраўніцтвам Ігара Фіты. Гітом аказаўся выступ „Падляшскай капэлы" Марка Скамароўскага з Сямятыч. Музыканты бадзёра „рэзалі ад вуха да вуха" наперамен даўнейшыя мелодыі і сучасныя гіты: „Погнала волкі на букавіну", „Колькі ў небе зор", „Чырвона рута", „Яжэмбіна чэрвона", „Смэрэко" ды іншыя. Лідар капэлы аказаўся не толькі дасканалым салістам, але і гумарыстам. Ягоны гумар да слёз разбаўляў публіку. Гучныя апладысменты атрымаў за песню „Добра кавалерам быць".

У ходзе канцэрта адбыўся конкурс на тэму ведаў аб гміне ды былі ўручаны падарункі лаўрэатам конкурсу „На найпрыгажэй убраную святочную (калядную) сядзібу". Першае месца журы прызначыла Любе Рошчанка з Дашоў, другое — Юліце Маркевіч з гэтай жа вёскі, а трэцяе — Надзеі Мароз з Кляшчэляў; вылучэнні атрымалі Анна Шэвяк з Дашоў, Сільвія Кулікоўская з Кляшчэляў і Валянціна Сакоўская з Залешанаў. Сюрпрызам стала інфармацыя, што старшыня гуртка Польскага саюза пенсіянераў Надзея Мароз якраз адзначае дзень нараджэння. З гэтай нагоды публіка разам з „Капэлай" праспявалі юбілярцы гучнае „Сто лят" і „Многае лета", затым Марк Скамароўскі закружыў у танцы ў такт вальса з кінафільма „Ночы і дні". Да гэтых пажаданняў далучаны былі шматлікія падарункі сябровак. У заканчэнні мастацкай часткі госці з Беларусі ўручылі падарункі бургамістру Ірэне Негярэвіч, кіраўніку мастацкіх калектываў ГАКСіА Ігару Фіту і Марку Скамароўскаму ды запрасілі да сябе „Падляшскую капэлу" і дзіцячы гурт з Кляшчэляў. Ігар Фіта тут жа ўручыў па кветцы жанчынам, якія ўдзельнічалі ў мерапрыемстве, а арганізатары запрасілі на супольны пачастунак. Яшчэ да сёмай вечара не ціхла музыка ў „Гладышцы", дзе пад гукі „Падляшскай капэлы" гулялі ўдзельнікі кляшчэлеўскіх святкаванняў.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

# Дзень жанчын

8 сакавіка ў Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе адбылася сустрэча, прысвечаная Міжнароднаму дню жанчын. Арганізатарам мерапрыемства былі Гмінны цэнтр культуры і Польскі саюз пенсіянераў і інвалідаў. Святочныя віншаванні перадалі старшыня Рады Гайнаўскага павета Мікалай Міхалюк і старшыня пенсіянерскай арганізацыі Раман Туркевіч. Удзельнічала каля паўсотні жанчын. Сустрэча з шампанскім, пры каве і гарбаце, праходзіла ў мілай, сардэчнай атмасферы. З мастацкай часткай выступілі мясцовыя школьнікі. Літаратурны мантаж „Аб жанчынах у жартоўным тоне" падрыхтавалі настаўніцы Ірэна Пашкоўская і Барбара Смык. У знак прызнання атрымалі яны ад Рамана Туркевіча вазон з кветкай і найлепшыя пажаданні з нагоды Дня жанчын. Варта адзначыць, што чаромхаўская пенсіянерская арганізацыя павялічылася на шэсць новых членаў з Мілейчыцкай гміны. Гэта актыўныя дзеячы і каштоўны набытак для чаромхаўскай арганізацыі. Вось што мне сказала ў час размовы пры застоллі Марыя Саўчук з Мядзвежыкаў: „З грамадскай працай я звязалася, калі працавала прадаўшчыцай у вясковай краме. Зараз я на заслужаным адпачынку. У нашым наваколлі няма пенсіянерскай арганізацыі. Таму мы з сяброўкамі рашылі прапісацца да чаромхаўскіх пенсіянераў. У дружным калектыве хочам культурна праводзіць вольны час. А такую магчымасць, спадзяюся, знойдзем у коле чаромхаўскіх сяброў".

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**



# Праваслаўныя вернікі
## з-пад Бельска наведалі Слонімшчыну

На Слонімшчыне нядаўна пабывалі праваслаўныя вернікі прыхода Нараджэння святога Іаана Багаслова з вёскі Пасынкі, што каля Бельска, разам з протаіерэем Яўгенам Сушчам.

Найперш госці з Беласточчыны наведалі Жыровіцкі манастыр. Яны пазнаёміліся з дзейнасцю манастыра, пакланіліся Іконе Жыровіцкай Божай Маці, наведалі Мінскія духоўныя акадэмію і семінарыю. Каля Жыровіцкай святой крыніцы вернікі з Беласточчыны набралі святой вады, а потым прыехалі ў Слонім.

У Слоніме аўтобус з гасцямі спыніўся каля сацыяльна-педагагічнага цэнтра. Гасцей шчыра вітала дырэктар цэнтра Ірына Чыгрына, якая расказала пра дзейнасць сваёй установы, зрабіла экскурсію па ёй, а таксама падзякавала протаіерэю Яўгену Сушчу і ўсім праваслаўным вернікам з Беласточчыны за дапамогу, якую яны прывезлі ў той дзень з сабой. А дапамога аказалася даволі вялікай. Госці з Беласточчыны прывезлі дзеткам, якія там знаходзяцца, салодкія ласункі, школьныя прылады, адзенне, абутак, цацкі і г.д.

Супрацоўнікі Слонімскага сацыяльна-педагагічнага цэнтра спадзяюцца, што такі візіт і сяброўства з прыходам Нараджэння святога Іаана Багаслова з вёскі Пасынкі будзе працягвацца і надалей.

**Сяргей ЧЫГРЫН, Слонім**





# ЕЎРАСАЮЗ творцаў

**У еўрапейскай сталіцы Бруселі з 27 лютага да 1 сакавіка 2014 г. праводзіўся I Сусветны паэтычна-літаратурны Унісон, арганізаваны спадарыняй Івет Паплаўскай-Матушак і яе міжнароднай асацыяцыяй «Віртуалія-Арт». Прапрэм'ера мерапрыемства адбылася ў сядзібе Рэгіянальнага бюро Лодзінскага ваяводства ў Бруселі. Цырымонію адкрыў першы дарадчык, кіраўнік консульскага аддзела Пасольства Польшчы ў Бруселі Пётр Адамюк (выпускнік Бельскага белліцэя). Вечарыны вяла Юліта Кажушак-Борсук, польская акцёрка, харэографка і спявачка.**

— Тытулаваныя госці, цудоўныя мастакі прыехалі ў Брусель з Польшчы, Нямеччыны, Англіі, Францыя, Галандыі і Італіі. Былі таксама паэты Бруселі і прылеглых раёнаў (Гент, Антверпен). Ганаровымі гасцямі прапрэм'еры былі м.інш: прэзідэнт Асацыяцыі «Паланез» Зянон Фаб'ян з жонкай Іалантай Тушынскай, Галіна Якубоўская — скульптарка, лаўрэатка конкурсу «Паляк года» ў Бельгіі за 2011 год у катэгорыі культуры, піяністка Альжбета Дэдэк — намінаваная ў конкурсе «Паляка года 2013» у Бельгіі, Алена Вохен з **«Le Jardin d' Helena»**, Барбара Войда — прэзідэнтка **«Le Centre Millenium»** — Польскага дома ў Комблен-Ла-Тур і Мажэна Дзёрэк ды Рафал Дзёрэк з Вярхоўнага штаба OВС НАТО, — пералічвала прэзідэнтка «Віртуаліі» Івет Паплаўская. — Цырымонію адкрыла Вікторыя Гебаль паэзіяй на музыку (а капэла), заспяваўшы **«Vrijheid»** („Свабода") для Украіны. На працягу вечара пачулі мы таксама выступленні Вікторыі Фалькоўскай з песнякоўскім-Лойдам, Мірай Лукшай, а таксама прэзентацыя паэтаў, пісьменнікаў, мастакоў, журналістаў, паланійных арганізацый, для якіх бачанне свету ляжыць у мастацкай выразнасці праз творчыя рэалізацыі.

— Я ўдзячная ўсім удзельнікам, якіх тут дзвесце асоб! — дзякавала дробненькая і маленькая арганізатарка мерапрыемства, якое здавалася быць спачатку не пад яе сілу. — Ваш удзел гэта наш поспех, ваша прыхільнасць і ўдзел сямі дзяржаў — гэта прынесла ўклад ва ўмацаванне супольнай творчай платформы, у супрацоўніцтва, міжнародных пагадненні. Паказвалася гэтая сустрэча таксама ў шэрагу культурных, літаратурна-мастацкіх міжнародных СМІ, на парталах. Выступілі выдатныя мастакі: Тэрэза Молі-Асада, Катарына Гебаль, Аліна Божык, Марк Гаёк, Крыстафер Мровец, Бэнка Вантроба, Івона Астроўская, Ражэ Мартэн Малюга з Нідэрландаў, Пітэр Бернс з Англіі і іншыя. «Хай I сусветны паэтычна-літаратурны Унісон у Бельгіі будзе іскрай, якая запальвае жаданне шчырага супрацоўніцтва ўсіх літаратараў, мастакоў і арганізацый да славы шырокай культуры», — напісаў нам Ежы Граноўскі.

Прэм'ера мерапрыемства адбылася ў пятніцу, 28 лютага, у Шале Норман, дзе паявіліся натоўпы знакамітых гасцей. Апошні дзень Сусветнага Унісона адбыўся ў суботу ў залах гатэля «Алофт». У дадатак да дакладаў вядомых постацей са свету літаратуры быў праведзены конкурс на адзін верш. Прэміяй за літаратурную дзейнасць былі Залатыя пёры. Статуэтку Залатога пяра атрымаў м.інш. Фрыдэрык Расакоўскі-ша Марта Цывінская: «Сучасная паэзія мае дастаткова эгаізму яе стваральнікаў. Івет Паплаўская ўводзіць у яе новыя якасці, якасці — слоў памножаных, і гэта далёка ад эхалаліі. Яна спатыкаецца аб «сваё альтэр эга», якое ўваходзіць у зачапленне ў дабрачынную дзейнасць і абдымае словамі атрымальніка. Ёсць у паэтычнай Івет супярэчнасці, але тым больш прыцягвае чытанне яе вершаў: тонкасць і адраджэнне Фенікса, бунт і пакорлівасць, пакіданне і вяртанне, гонка і праходжанне міма, настальгія па Радзіме і паэтыка падарожніка. Івет Паплаўская — паэтка мужная, не прыслухоўваецца да пабуджэнняў, ціску і розных усякіх «яведаю-лепш-таму-што-ведаю-гэта-я». Ёсць у ёй шмат інкруставанай звышэмацыйнасці начнога матылька, які гарыць у дзеянні для іншага чалавека. Яна робіць і адкрывае. Арганізуе і пасля неаднаразова паўстае з попелу. Цікава, Івет бліжэй да Фенікса з аповеду Герадота, ці Плінія Старэйшага. І вось я знаходжу паэтку як эмоцый у версіі Ісідара Севільскага. Паэзія польска-фламандскай Івет Паплаўскай дыхае і іграе, трывожыць і ліквідуе трывогі, дае ключы і закрывае дзверы, вяртае надзею і паказвае механізмы яе павольнай страты, робіць мініяцюрным фармальны бок аналізу і заклікае да смеласці эмацыйнага выразу. Яе паэзія моцна аўтабіяграфічная (для датычных), і заадно ўбудаваная ва ўніверсальную сімволіку. Івет кажа — хоць назва кнігі ў гэтым кантэксце як быццам бы наадварот: «сабе самой» — з любоўю да Атрымальніка (**par majuscule!**). І не лічыць метафарычнай прастору Агоры, на якой кожнае пытанне правакуе або ўдарае (больш за ўсё поўна несвядома) у намеры суразмоўцы. Гэта свайго роду бібліятэка без сцен, хоць з трывала ўсталёўленым дахам. Івет не абвяшчае сваіх


Лідзія Маліноўская ўручае консулу Пятру Адамюку падарунак ад бурмістра Бельска-Падляшскага


Аліна Божык, Лідзія Маліноўская, Міра Лукша, Каліна Зёла і Івет Паплаўская-Матушак



Каліна Зёла і Івет Паплаўская-Матушак з карцінай «Славянская дзяўчына» Давіда Вайталевіча

мі «Відзэагульні», «Лянівая песня», «Радыеактыўныя» і «Дыяменты». Увесь вечар працягвалася экспазіцыя «Намалюй Маю» (дзеля хворай дзяўчынкі), фотавыстава «**KobusArt**» Лукаша Кобуса, фотавыстава Зоі Дэц «Дзяўчына». Акрамя таго была арганізавана выстава карцін і скульптур гасцей, м.інш. Анеты Люрскай «Халодная адзінота», Аліны Божык — паэзія, жывапіс, камп'ютарная графіка, Ежы Госціняка — паэзія, скульптура, Ежы Граноўскага — паэзія, лінагравюры, Славы Сібіга — паэзія, мастацкія працы, Давіда Войталевіча — графічны дызайн кнігі Івет Паплаўскай-Матушак «К себе самой» (перакладзенай Мірай Лукшай на рускую мову) і Катарыны Гебаль — мастацкія творы, Інгі Фалькоўскай «Папяровыя моды», Магдаліны Станкоўскай «Папяровыя прэзентацыі і макіяж», Кацярыны Скрабані — крэатаркі моды, Лідзіі Маліноўскай з Бельска-Падляшскага — фатаграфія, жывапіс і фларыстыка. Адбыліся лекцыі, дыскусіі пра літаратуру, у прыватнасці з Матэвушам Капроўскім і Ганнай Левандоўскай з тыднёвіка «Агора», доктар Мартай Цывінскай, Марленай Зынгер, Пятром Кас'ясам, Фрыдэрыкам Рас-Лойд з Лондана (яго вершы на беларускую мову пераклала Міра Лукша). Вершы па-беларуску чыталі Міра Лукша і Лідзія Маліноўская. Міра Лукша ў трэці дзень мерапрыемства мела галоўны даклад — «Месца адкуль мае карані ў паэзіі — творы пагранічча — спадчына Вялікага Княства Літоўскага, першага Еўрасаюза». Лідзія Маліноўская заспявала беларускія песні. У дадатак да свята для душы было свята для вачэй у выглядзе вернісажу, на якім можна было палюбавацца карцінамі Зоі Дэц з Нідэрландаў, Маргарэт Віля з Гента, Давіда Вайталевіча, Агнешкі Казлоўскай, Лідзіі Маліноўскай з Бельска і многіх іншых мастакоў. У дадатак зачаравалі вечар канцэрты «Бела-Чырвоныя», Вікторыі Гебаль, Ражэ Мартэн Малюга з Нідэрландаў, Пітэра Бернса з Англіі, Марго Кіер і Лідзіі Кругер з Нямеччыны ды Лідзіі Маліноўскай. Чыталіся вершы па-французску (Аніс Лаюні), па-беларуску і перш за ўсё на польскай мове. А найменш (!) можна было пачуць пра заснавальніцу «Віртуаліі», паэтэсу, дзеячку культуры, сціплую Івет Паплаўскую, узнагароджаную прэміяй «За арганічную працу». Пра паэзію Івет Паплаўскай ніадносін да сюррэалізму, але ў ходзе чытання яе вершаў у розуме чытача ствараецца суб'ектыўная галерэя ранніх работ Рэнэ Магрыта. Ён таксама меў шчырую схільнасць да сімвалічнага дублявання. Мабыць, ёсць дзве Івет: рэальная і паэтычная? Стварэнне шматразовых партрэтаў гэта патрабаванне паэзіі, якая змагаецца з усялякімі абагульненнямі. У снежні 1932 г. у часопісе «**Weird Tales**» з'явіўся аповед Роберта Э. Говарда са шматзначнай назвай «**Phoenix on the Sword**». Гэта Івет Паплаўская, вядомая сваёй пастаяннай воляй паэтычнага адраджэння, кідае пальчатку псеўдарыцарам няпоўнай паэзіі. Заўвага: яна таксама мае меч, якога баяцца псеўдапаэты». І надалей яна перажывае ў Бруселі, трывожыцца, ці першы сусветны Унісон удаўся. У адзін голас пацвярджаем і жадаем гэтай хрупкай, кволай, мужнай жанчыне перш за ўсё здароўя, а і натхнення на новыя подзвігі. А шчасце — што ўжо дваццаць тры гады на яе звілістых дарогах жыцця спадарожнічае яе спакойны, разважлівы фламандскі муж — Лодэ Лакруа!

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

## Запрашаем на выставу


Мастак Анатоль Краўчук з жонкай

У галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы (Гайнаўскі павет) адкрылі выстаўку карцін Анатоля Краўчука з вёскі Крывая пад Бельскам-Падляшскім. Можна на ёй агледзець 30 карцін, між іншым, з пейзажамі прыгожых мясцін на Бельшчыне. Экспазіцыя вартая ўвагі. Мастак вядзе хроніку сваіх выставак і піша пра сябе. Прачытайце пра жыццё і творчасць мастака старэйшага пакалення.

**(яц)**

## Каму служыць?..

У нядзелю, 2 сакавіка, падарожнічаў я з Кляшчэляў у Чарому. Калі апынуўся на пероне і паспрабаваў даведацца ў колькі гадзін ад'язджае мой цягнік, дык не мог знайсці раскладу язды. Два разы пратаптаў перон туды і назад, але табліцы з раскладам на будынку пачакальні, забітай дошкамі, не прыкмеціў. Падаўся затым пад агароджу мяжуючай з перонам сядзібы, дзе калісьці знаходзілася лаўка для сядзення і сталў кош для смецця. Па гэтых дабрадзейнасцях чыгункі след прапаў. Зараз у гэтым месцы валяецца куча смецця. Рэгіянальныя перавозы, мабыць, рашылі, што пасажырам чакаючым цягніка хопіць адно шматок сіняга неба і... духмянага паветра, якое нясецца ад мяжуючых елак. Бо і мураваныя туалеты на пероне, збудаваныя ў царскі час, разабралі. Дзеля эканомікі...

А фактычна расклад язды знаходзіцца на пероне. Не змог я яго прыкмеціць, бо табліца завешана на электрычным слупе на вышыні... больш двух метраў. Як затым можа пакарыстацца раскладам пасажыр нізкага росту, або старэча са слабым зрокам? Для гэтай мэты спатрэбяцца моцныя бінокль, або... драбінка. Затым пытаю чыгуначнага перавозчыка: для якой мэты павешаны расклад язды на станцыі ў Кляшчэлях. Няўжо для ўпрыгожання змрочнага перона?

**(ус)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl



зорка
для дзяцей і моладзі

# Назаві свае кветкі

У прадвесне парадкуем агародчыкі, сеем новыя кветкі, разводзім экзатычныя аздобныя кусты і травы. Усё гэта супер! Аднак самая важная і цікавая справа — захаваць старыя віды раслін. Два гады таму такую акцыю наладзілі вучні ў Арэшкаве. Яны перасадзілі на новыя клумбы нарцысы, лілеі, нюхточкі, аргіні і ландышы, званочкі са старога агародчыка. Іх агарод зацвіў новымі і заадно адвечнымі праскамі.

Сёння ахову старых і традыцыйных відаў раслін і кветак вядуць вядомыя адукацыйныя асяродкі і ландшафтныя паркі. У модзе арганізаваць конкурсы на „Агародчык бабулі”.

Наогул не думаем як важныя для нас старыя віды раслін. Яны — частка нашай культуры і медыцыны. Неўзабаве традыцыя адраджэння старых агародчыкаў завітае і да нас. Тут трэба памятаць яшчэ пра адну каштоўнасць, нам трэба захаваць не толькі традыцыйныя кветкі і зёлкі. Варта прыгадаць мясцовыя назвы. Іх напэўна яшчэ памятаюць нашыя бабулькі і вясковыя сваякі. Вось, падобную кампанію прыдумаў беларускі сайт „Будзьма беларусамі” — той самы, які час ад часу спансаруе цудоўныя ўзнагароды для чытачоў „Зоркі”.

ЗОРКА





Караліна КАРАВАЙ,
*Нараўка*

## Кветка

У маім агародзе
Расце кветка.
Яна на вясну расцвітае
І чароўна тады выглядае.
Ёю ўсе захапляюцца
І пра яе пытаюцца.
Я штогод яе чакаю,
Калі яна вырасце
І сваёй прыгажосцю
Нас зачаруе.

Магда КЛІМОВІЧ,
*Баршчэва, школа ў Міхалове*

## Тры мурашкі

Жылі тры мурашкі.
Першая мурашка была вялікая.
Другая мурашка была маленькая.
Трэцяя мурашка была
проста вясёлай.
Аднойчы ў лесе яны гулялі
І вясёла сабе спявалі.

Іза БАРОЎСКАЯ,
*Нараўка*

## Вясна

Вясна — гэта радасны час.
Усе яе чакаюць
І з надзеяй у неба спаглядаюць,
Ці сонейка мацней грэе,
Ці траўка зелянее,
Ці кветкі зацвітаюць,
Ці на дрэвах лісточкі ззяюць?..

# Птушынае Падляшша

Калі на блакітным, сакавіцкім небе першы раз убачыш ключ жураўлёў ці дзікіх гусей, прыстань і назаві свае мары. Выгукні іх гледзячы ў неба, а твае думкі і словы будуць пачуты і здзейснены. Гэтак гаворыць народнае беларускае павер'е. Сама карціна — паварот з далёкага выраю птушынай радні — прамаўляе як жывая метафара адраджэння і новага жыцця. На душы адразу становіцца цяплей і весялей...

Магічна-пажадальныя варажбы нашыя продкі спалучалі з прылётам буслоў. Гэтая птушка найбольш павінна хваляваць школьнікаў. Калі хто пабачыць першага бусла ў палёце, ён будзе шчаслівы — гэта знак, што паспяхова пяройдзе ў наступны клас. Найгоршы знак — седзячы бусел. Карацей, вам прыйдзецца сядзець яшчэ адзін год у аслінай лаўцы, у тым жа самым класе. Гэта канон дзіцячага фальклору!

Папраўдзе, амаль усе пералётныя птушкі прамаўлялі як пасланцы з іншага вымярэння, таму ім спявалі песні, ладзілі абрады і гульні. На Сараки выпякалі пернікі ў выглядзе жаўрукоў і ластавак, а свята Дабравешчання не магло адбыцца без „буславай лапкі”. Абрады, звязаныя з прылётам птушак, як не цікава, пасля гадоў забыцця вяртаюцца да жыцця, адраджаюцца. Іх вывучаем на ўроках беларускай мовы ці ў час заняткаў рэгіянальнага гуртка. Не дзіва. Падляшша — каралеўства дзікага птаства. Асабліва гэта відаць вясной, калі ў падтопленых далінах рэк Бобры ці Нарвы спыняюцца сотні тысяч пералётных птушак: дзікіх гусей, лебедзяў, кулікаў... Іх следам спяшаюць турысты з прамысловай Еўропы. Яны як ніхто ўмеюць дацаніць дзікі птушыны пейзаж. Чаму так? Можа ў відзе пералётных птушак закадаваныя адвечныя мары, за якімі мы таксама гатовы ляцець на другі край зямлі.

ЗОРКА



# Пачынаецца „Роднае слова”

З 12 сакавіка пачынаюцца раённыя спаборніцтвы дэкламатарскага конкурсу „Роднае слова”. Конкурсныя адборы пройдуць у Орлі, Гайнаўцы, Бельску і Беластоку. Цэнтральны конкурс запланаваны на 2 красавіка 2014 года ў Бельску-Падляшскім.

Як заўсёды, настаўнікі беларускай мовы падрыхтавалі шмат добраахвотнікаў-выступоўцаў.

Найбольшае зацікаўленне конкурсам праяўляюць вучні пачатковых школ.

Ёсць класы дзе ўсе вучні заяўляюць ахвоту паспрабаваць сіл на беларускай сцэне. Конкурс — гэта магчымасць сустрэчы з беларускім мастацкім словам не толькі ў школах. Вось, шмат гадоў запар, сваіх прадстаўнікоў рыхтуе Вясковы дом культуры ў Рыбалах. Мясцовыя дзеці не маюць магчымасці вывучаць беларускую мову ў школе. Гэты недахоп у нечым замяняе беларускі гуртак, які вядзе пані Лідка Мартынюк. Да яе горнуцца школьнікі і нават малечы.

ЗОРКА

# Беларуская гавэнда

У Гайнаўскім белліцэі ўжо пятнаццаты раз адбыўся конкурс „Беларуская гавэнда”. Мерапрыемства адбылося 21 лютага 2014 г.

У гэтым годзе вучням з Нараўкі пашанцавала. З нашай школы паехалі чатыры асобы і ўсе яны вярнуліся з узнагародамі.

З пачатковай школы I месца заняў Тамаш Харкевіч, а III — Ніна Марціновіч, абое з III класа. Сярод вучняў гімназіі першае месца заваявала Наталля Васько, а трэцяе — Бартэк Ламашкевіч.

У гэты дзень мы мелі магчымасць паслухаць вельмі прыгожых песень у выкананні калектыву „Знічка”. Апрача таго нас уразіла вельмі мілая атмасфера ў школе. У наступным годзе мы таксама паедзем на „Гавэнду”. Маем надзею, што зноў таксама будзе прыемна.

**Наталля Васько з Нараўкі**

Фота Ганны КАНДРАЦЮК

**Валерыя ЛЮЛЯК, *Міхалова***

## Вясна

Зялёная вясна,
Пара года — радасная.
Вясной кветкі цвітуць,
Каб пасля схаваць свой лоб.

Дзеці ахвотна на падворку гуляюць,
Сонечныя дні вітаюць.
Часам ідзе дробны дожджык,
Аж паставіць іголкі вожык.

Птушкі гнёзды свае будуюць,
Дзеці веснавыя малюнкі малююць,
Ездзяць па роварах,
А дарослыя на мапедах.

Цёплы вецер вее,
Певень радасна пяе,
Усім нам вясна радасць нясе!

**Кацярына МУЧКО, *Нараўка***

## Месца

Маю такое малое месца.
Часта там бываю.
Калі я там ёсць,
Гадоў мне не прыбывае.
Можаш думаць што хочаш,
Чаму нікога там не запрашаю.
Гэта маё малое месца.
Гэта мой свет.

**Дамініка КАЗБЯРУК, *Кухмы-Петрукі, школа ў Міхалове***

## Гультайства катоў

У маім доме мышы гуляюць!
А каты іх не хапаюць!
Ляжаць сабе на канапе!
Дасць ім тата мой па лапах!

# Каліса як бярозка

**Каліса Пятроўская** ходзіць у Беларускі садок № 14 у Беластоку, а восенню пойдзе ўжо ў суседнюю пачатковую школу № 4, дзе вучацца яе старэйшыя калегі з дзіцячага садка. Як усе дашкольнікі з гэтага садка, цікавіцца культурай, прымае ўдзел у конкурсах. У мінулым годзе яе мастацкая праца заваявала першую ўзнагароду ў конкурсе „Пазнай Беларусь” — гэта быў малюнак зроблены цікавай пластылінавай тэхнікай. Любіць таксама спяваць разам з ансамблем Сямейнае трыо з Макаўкі, дзе спяваюць яе мама Ганна і цёці Юстына і Уля, спявае яшчэ і яе бабуля Міраіда, і вядомай беларускай спявачкай была прабабуля Вера Дамань.

Пачынае Каліса найперш ад калыханак. На дыску „А ў полі бяроза” Сямейнага трыо ёсць яе калыханка „Хадзіў бусел па балоце”, запісаная ад спадарыні Надзеі Сахарчук з Маліннік.

— На гэтым дыску ёсць яшчэ беларускія песні, якія я вельмі люблю, — кажа Каліса. — Гэта „А ў полі бяроза”, „Ляцела зязюля”, „Лебядзін мой”, „Як сова, сова”, „Капаў казак”, „А ў полі вярба”, „Восень”, „Ой па мору”, „Дзве тапалі”, „Роздумы”, „Гаворка беларуская”, „Ой, гыля”, „Хадзіў бусел” і „Чырвоная вішня”. Найбольш падабаецца мне спяваць з маёй бабуляй Міраідай, што жыве ў Макаўцы з дзедкам Валікам. Найлепш гучаць песні, калі мы іх спяваем усе разам!

(лук)

# Увага, конкурс!!!

## Загадкі з роднай хаткі (№ 11-14)

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 16 сакавіка, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**

Праз горы, даліны,
Праз тысячы сёл
З далёкай краіны
Вярнуўся пасол.
Спаважны, чыноўны,
Ён стаў на страсе,
У ботах чырвоных,
Каб бачылі ўсе.
(б....)

**2.**

З кветкамі
заўжды прыходзіць,
Радасць,
песні нам прыносіць,
Па лугах ідзе,
лясамі...
Хто яна?
Пазнайце самі.
(в....)

**Адказ на загадкі № 8: рака, вясна, верабей. Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Дамініка Календа з Бельска-Падляшскага і Кацярына Мучко з Нараўкі. Віншуем!**

# Польска-беларуская крыжаванка № 11

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклеенымі кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 7:**

Запусты, наш, пляц, пранік, правы, ало, трава, след, раса, этыка, моц, папас, Іна, арка, Ас, стары. Зямля, міф, трон, прас, правапіс, лава, яны, эпас, старт, калыска, лек, продак.

Узнагароды, **запісныя кніжкі**, выйгралі **Сэбастыян Леановіч, Юлія Кардаш, Наталля Марчук** з Нараўкі, **Юлія Жукевіч, Міхал Паніквіцкі** з Бабік, **Зузя Кардзюкевіч, Міхал Сахарчук** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Nos | Oznaka | Jaryło / Znak | | | | | |
| | Siedem / Sok | Nazwa / Pierzyna | | | | | | Rana | Otoczka | |
| | Poznań / Ocet | | | | | | | | | |
| Wiosna | | | | | | Jawa / Tron | | Jawor | No | |
| | | | Akt | | | | Ono / Aby | | | |
| Chór / Cyrk | | | | | Beksa płaksa | | | | | |
| | | | Postać | | | | | | | |
| Pan / Miednica | | | | | Nerka | | | | | |

# Вакол Страблі





Палац у Страблі



Пульшы

У аўтобусе, што выязджае з Беластока ў Дакторцы, апрача мяне яшчэ трое пасажыраў — адна жанчына і двух мужчын. У Злотніках дасядаецца яшчэ адна пажылая жанчына; вітаецца з пабачанай кабетай з Беластока. Абедзве пакідаюць аўтобус у Багданках, там вясковы медпункт. Відаць, ранішні аўтобус прывёз туды і лекара, і пацыента. Вяскоўцы, якім фамільярнае хваляванне за сваё здароўе, трывожацца часта магчымасцю даезду да лекараў; можа дзеля акурат пагашэння такой трывогі і захаваўся гэты курс.

Злажу ў Дакторцах. Перад некаторымі панадворкамі гаспадары расчышчаюць тратуары ад растаючага снегу, побач бардзюр пратыкаюць раўчакі для сцёку адліжнай вады. А рэчка Нарва, што зараз за вёскай, яшчэ пад ільдом. На другім беразе, з боку Страблі, насупраць касцёла, скошаная калісь паласа сенажаці з непрыбранымі цюкамі, затопленымі ў замерзлай вадзе. Мо ў нядаўнім мінулым, якой саракагадовай даўнасці, нашы руплівыя гаспадары асацыявалі б такую карціну з калгаснай гаспадаркай. Ды і сёння гаспадарка ў некаторых яе праявах здаецца быць падобнай да легендарнай у нас калгаснай: абы было адзначана, што скошана, толькі заміж колішніх працадзён сёння маем даплаты...

Геаграфічны слоўнік Польскага Каралеўства так пісаў пра Страблю: „Strabla — wieś i dobra przy linii drogi żelaznej brzesko-grajewskiej, powiat bielski, guberni grodzieńskiej, w 2 okręgu policyjnym, gmina Rajsk, o 14 wiorst od Bielska. Posiada kościół parafialny pod wezwaniem Wniebowstąpienia, z muru wzniesiony w 1617 r. Parafia katolicka dekanatu bielskiego, 1367 wiernych. Stacja drogi żelaznej brzesko-grajewskiej pomiędzy stacjami Bielsk a Białystok (o 29 wiorst), o 97 wiorst od Brześcia, a 99 wiorst od Grajewa. Dobra mają około 12 500 mórg obszaru. Włościanie wnieśli 10 121 rubli srebrem i 21 kopiejek wykupu za wydzieloną im ziemię. Znajduje się tu piękny pałac dziedziców, wystawiony w XVIII wieku, w którym mieszczą się bogate zbiory, liczna biblioteka, galerya portretów familijnych i wiele pamiątek rodzinnych. Ogród włoski z pysznymi alejami wiązowemi i cisowemi, oraz z widokiem na Narew, został założony w XVI w. przez Jana z Krajny, lekarza nadwornego Zygmunta I, któremu Strabla została nadana”.

Партал Вышкаўскай гміны дадае: „W 1867 roku Strablę kupiła księżna Aleksandra Oboleńska. W 1870 roku Oboleńska przekazała w dzierżawę pałac płk. Adamowi Smulskiemu. Następny dzierżawca majątku doprowadził go do ruiny. Wtedy zaginęły meble i obrazy z pałacu”. Кім была княгіня Абаленская і чаму яна так хуценька вызвалілася ад палаца?

Народжаная ў 1831 годзе княжна Аляксандра Абаленская была змагаркай за жаночую адукацыю ў Расійскай Імперыі. Яна ў 1870 годзе заснавала першую ў Пецярбургу жаночую гімназію. Ейная маці была француженкай, і хаця памерла вельмі молада, усё ж такі Аляксандра ўнаследавала, мабыць, па ёй пачуццё нейкай асветніцкай місіі, нейкую патрэбу прынесці ў Расію тыя ідэі, якія прабіваліся ў жыццё на захадзе Еўропы. Але не модныя лозунгі пра раўнапраўе і вызваленне жанчын адухаўлялі яе, толькі стварэнне жанчынам магчымасці раўнапраўнай з мужчынамі адукацыі, якая б дазваляла паступаць ва ўніверсітэты. Удалося ёй сабраць аднадумцаў, якія згадзіліся часткова фінансаваць праект, аднак яна сама аплачвала палову расходаў новай школы, заснаванай менавіта ў 1870 годзе; менавіта тады ёй былі патрэбныя грошы, і дзеля іх здала тады нашу Страблю. А якім чынам яе купіла?

Пасля Студзеньскага паўстання Страбля была канфіскавана ранейшаму ўласніку Віктару Стажэнскаму за ягоную ролю ў час паўстання. Купіла яе княжна, якой муж, князь Андрэй Абаленскі быў толькі што, у 1863 годзе, прызначаны на пасаду загадчыка Гродзенскай казначэйскай палаты. Дзяцінства правёў ён часткова ў Маскве, а часткова на ўсходзе Смаленшчыны, якую ў маладасці прайшоў пехатою, знаёмячыся з жыццём прыгонных сялян. Пасля займаў ён важныя пасады ў шэрагу губернскіх гарадоў, а ў 1860 годзе трапіў у Пецярбург. Аднак ягонае аднадумства з вядомым, але апальным, славянафілам Іванам Аксакавым, мабыць, прывяло да высылкі яго ў наш губернскі цэнтр, у цэнтр „мяцежнай” на той час губерні; пра Аксакава будзе крыху пазней. У Пецярбург Андрэй Абаленскі вярнуўся ў 1873 годзе, дзе два гады пазней памёр; ягоная жонка памерла ў 1890 годзе.

Усяляк мяняліся ўласнікі страбельскага палаца ды і над самім палацам раз збіраліся хмары, іншым разам у яго ваконцы заглядала сонейка. І зараз выглядае ён так, быццам яго ўладальніцай была непрысутная ў ім княжна Аляксандра Абаленская, адно толькі байкаваты сабака пільнуе рэзідэнцыі, у якой калісь-калісь бывалі розныя знатнасці...

У сабак, падобна як і ў людзей, розныя характары. Той, што пры мне пільнаваў палацавай брамы, быў ганарлівы і маўклівы, быццам які князь. Затое ж крыху далей, у Вікторыне, сабакі такія галосныя, што, мабыць, чуваць іх нават у космасе. Гмінны партал: „Obszar wsi Wiktorzyn należał pierwotnie do majątku Strabla. Na przełomie XIX i XX wieku wiele gruntów wokół Strabli było dzierżawionych różnym osobom. Na jednej z takich dzierżaw powstał folwark Wiktorzyn. Liczył zapewne mniej niż 50 ha, gdyż nie ujęto go w spisie Księgi Adresowej Polski. O Wiktorzynie wspomina Skorowidz miejscowości RP z 1921 roku, ten folwark liczył ówcześnie 2 domy i 18 mieszkańców, w tym 2 prawosławnych. Można go również odnaleźć na mapach z okresu międzywojennego”.

Назву мясцовасць гэтая атрымала, мабыць, ад Віктара Стажэнскага, уладальніка Страблі ў другой палове XIX стагоддзя. Крыху слоў пра ягоныя незвычайныя жыццёвыя прыгоды. Вучыўся ў Швейцарыі і Германіі. На радзіму вярнуўся пасля смерці бацькі ў 1845 годзе. Неўзабаве выехаў у Пецярбург афармляць спадчынныя справы, там завёў кантакты з расійскімі арыстакратамі. Уступіў у рады імперскай гвардыі і хутка прасоўваўся ў службе. Закахаўся, аднак, у прабываючую там італьянку, кінуў службу і паехаў за ёю ў Італію. Калі вярнуўся ў Пецярбург, яго разжалавалі і адправілі на Каўказ змагацца з горцамі ў адным з казацкіх палкоў. Там вылучыўся баявымі подзвігамі, за якія атрымаў Георгіеўскі крыж. Вярнуўся на радзіму і ў 1861 годзе быў абраны гродзенскім губернскім маршалкам. Удзельнічаў у з’ездах знаці, дзе пазнаёміўся з імператарам. Пасля выбуху Студзеньскага паўстання адмовіўся ад звання маршалка, крытычна ставячыся да царскай палітыкі, абвінавачваючы цара за выбух паўстання. У палове 1863 года яго арыштавалі і пасадзілі ў віленскую турму, палічыўшы адным з галоўных завадатараў паўстання на Гродзеншчыне. Асудзілі яго на ссылку, а ягоны маёнтак у Страблі канфіскавалі. І неўзабаве той маёнтак стаў уласнасцю Абаленскіх...

Чарговая мясцовасць, Лапці, паводле партала, была першапачаткова заселена беларусамі; першая звестка пра яе датуецца 1597 годам. Уладалі ёю страбельскія дзедзічы. У 1921 годзе жыло там 179 душ, усе яны запісаліся палякамі.

Варпенхі-Старыя вядомыя з 1528 года. Гмінны партал: „W 1921 roku była to całkiem spora miejscowość w okresie międzywojennym, liczyła w 1921 roku 39 domów i 200 mieszkańców, w tym 2 prawosławnych i 3 Żydów”. Дата з’яўлення Варпенхаў-Новых пакуль не ўстаноўлена; „W 1921 roku Warpęchy Nowe liczyły 24 domy i 112 mieszkańców, w tym 3 prawosławnych. We wsi Warpęchy Nowe po wkroczeniu Niemców latem 1941 roku zatrzymano osoby które współpracowały z poprzednią władzą. W dniu 15 sierpnia w tej wsi zamordowano 9 rolników z okolicznych wsi. Zwłoki zakopano w polu. Po wojnie zwłoki ekshumowano”.

Даволі цікавая гісторыя чарговай мясцовасці, Пульшаў. Гмінны партал: „Była to wieś zamieszkała przez chłopów, ale należąca do proboszcza bielskiego. Sama wieś powstała zapewne jeszcze w XV wieku, lecz pierwsze dane o niej pochodzą z 1580 roku. Zatem jest to jedyny w gminie Wyszki przypadek własności kościelnej. Kolejni proboszczowie bielscy użytkowali wieś, stąd powstanie kaplicy. Proboszczowie bielscy chcieli zapewne nawrócić na katolicyzm prawosławnych mieszkańców wsi. Pierwsza kaplica pw. Trójcy Przenajświętszej, św. Stanisława Biskupa i Męczennika — jako kościół filialny — została poświęcona 18 listopada 1613 roku. Miejscowa kaplica podlegała parafii w Bielsku. W 1848 roku kaplica ta spłonęła. Kolejna została zbudowana w latach 1849-1850, staraniem miejscowej ludności. Od 1846 roku kaplica w Pulszach należy do parafii wyszkowskiej. W XIX wieku również państwo rosyjskie znacjonalizowało wsie kościelne i Pulsze stały się własnością państwa. W 1921 roku w tej wsi notowano 77 domów i 434 mieszkańców, w tym 6 prawosławnych i 30 Żydów”.

У Пульшах здарылася мне асечка: не ведаўшы тамашняй тапаграфіі не выйшаў я да згаданай капліцы, даходзячы адно да дарогі ў напрамку Стацэвіч і Сталавача. Пры разгалінаванні гэтай дарогі стаіць каменны крыж з надпісам на ім, што гэта памятка юбілею Збаўлення 33-1933. Збаўленне ад будучых пакут за мінулыя грахі ці памылкі шляхам ахвяравання свайго роду выкупу, якім хрысціянскія тэолагі лічаць Распяцце, якое адбылося ў 33 годзе пасля нараджэння Хрыста. У адным з апостальскіх лістоў 1933 года біскупы пісалі: „Dla społeczeństw, narodów i państw jest Jubileusz Odkupienia opatrznościowym ostrzeżeniem w przerażająco groźnej chwili. Katastrofę zwiastują te prądy myślowe, które nad światem gaszą Chrystusowe ognie a ziemię zamieniają w ciemny, beznadziejny przybytek niewolników materji i doczesności. Zgubną złudą jest ów raj doskonałej i wyzwolonej ludzkości, który ma podobno zakwitnąć na cmentarzysku czy gruzach chrześcijaństwa, krzyży, konfesjonałów, ołtarzy i świątyń. Złowieszczą zapowiedzią jest to wszystko, co przygotowuje przyszłość bez Boga i Odkupienia, bo ta przyszłość będzie dziełem anarchji i przemocy, klęską ducha, zwycięstwem terroru nad ładem, przewagą niewolnictwa nad braterstwem, barbarzyństwa nad kulturą”. Ліст быў пісаны амаль восемдзесят гадоў таму, а здаецца быць актуальным і цяпер.

Нават здаецца быць актуальнай і дзейнасць народжанага ў Пульшах біскупа Караля Грынявецкага, але пра яе наступным разам...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Успаміны маладзенькай машыністкі

## Люты 1956 год

«Ніва» — тыднёвік для нас, беларусаў у Польшчы. Некаторыя чыталі «Гіба» і пыталі: «Што гэта за газета?» Не помню ад каго і я даведалася, што ў Беластоку пры вуліцы Кілінскага, у так званым «Okrąglaku» арганізуецца беларуская рэдакцыя. Я, маладзенькая, ледзь васемнаццацігадовая дзяўчынка шукаю працу, калі ж пакінула вучобу ў дарожным тэхнікуме і перанеслася ў завочны педагагічны ліцэй пры вуліцы Міцкевіча. Я — будаваць дарогі і масты? Ніколі! Памылілася з выбарам школы. Мне пісаць вершы, апавяданні, маляваць, вучыць! Гэтакая мая будучыня!

На дварэ трашчыць мароз, а я, надзеўшы модныя «нарцыры», іду шукаць свайго шчасця. Сходкамі ўваходжу на другі паверх «Okrąglaka» і сэрца лапоча мацней: прымуць ці не, я ж вучылася беларускай мове? Уваходжу, старэйшы мужчына ў акулярах на носе запрашае мяне ў свой «кабінет». Распытвае адкуль я і што я ўмею рабіць. Выслухаўшы мяне, вядзе ў маленькі пакойчык, дзе сядзіць старэйшая жанчына і трэскае на машынцы.

— Вось паглядзі, будзеш машыністкай! Відаць, рэзалютная ты дзяўчына, усяго навучыць цябе Люба Сліжэўская. Заўтра прыходзь на працу, — сказаў мой будучы шэф, як потым аказалася, сакратар рэдакцыі Міхась Баравік. Сам галоўны рэдактар Георгій Валкавыцкі, таксама старэйшы (для мяне), паказаўся мне недаступным і сур'ёзным шэфам.

І так пачалася мая доўгая, бо аж 17 гадоў, жыццёвая вандроўка з «Нівай». Люба аказалася сімпатычнай асобай і добрай настаўніцай, так што хутка і я пачала ляскаць на беларускай машынцы. Памалу знаёмілася з журналістамі і працаўнікамі рэдакцыі. Неўзабаве за мною прыйшлі Вера Леўчук, Зося Бусловіч, Валя Нікіцюк і Ліда Калішэвіч, усе выпускніцы беларускага ліцэя ў Бельску. Дзве апошнія — на карэктуру. Зося і Валя штодзённа даязджалі цягніком з Бельска. Вера, Зося і маладзенькі тады, бо 20-гадовы, моцна сарамлівы і заіклівы хлапец з Крынак Крацё Яновіч, былі перакладчыкамі. І былі старэйшыя: Юзэф Рыбінскі і сімпатычны, сапраўдны (адукаваны) журналіст Міхась Хмялеўскі. Бо толькі галоўны Валкавыцкі і Хмялеўскі мелі вышэйшую адукацыю, працавалі ўжо журналістамі ў «Беластоцкай газеце». Як потым я даведалася, найбольшую заслугу ў стварэнні беларускага тыднёвіка меў сам галоўны рэдактар, у галаве якога гэтакая задума нарадзілася намнога раней, гэтак як і загаловак «Ніва». З Гарадка даязджаў невялічкі Мікола Матэйчык, які хіба ў «Ніве» вучыўся журналістыцы. Сваю помач ахвяроўваў мне і вясёлы Васька Баршчэўскі, перад якім асцерагала мяне сімпатычная, пажылая ўжо архівістка і сакратарка Надзежда Пятроўна Кусьмерэк:

— Ты, Ніна, глядзі, гэты хлапец ужо мае жонку, — казала, смеючыся.

Я адчула сябе як дома, між сваімі, ахвотна бегла на працу нат у нядзелю, як усе, цэлы калектыў. Да першага нумару, які выйшаў 4 сакавіка, было хіба дзве ці тры прымеркі. Валкавыцкі ламаў сабе голаў, як зрабіць яе цікавай, каб кожны беларус, не толькі адукаваны, а і той асаблівы чытач вясковы ўзяў яе ў рукі, як пісаць на простай беларускай мове пра справы вясковых людзей, пра іх праблемы кожнага звычайнага дня. Не на ўсіх вёсках ведалі беларускую мову, больш рускую. А ўсётакі праз нейкі час у кожную вёску, у кожную хату штотыдзень пісьманосец прынасіў «Ніву». Быў час, калі наклад «Ніва» меў 11 тысяч экземпляраў. «Ніва» вучыла, што наша мова не горшая, не маем чаго і каго саромецца, ані свайго вясковага паходжання. Вось і прыпомніўся мне артыкул Ваські Баршчэўскага «Вясельная гуска». Зрабіў фурор! Паказаў, як некаторыя з нас, выхадцы з вёсак, саромеліся свайго паходжання, сваіх бацькоў, якія часта не ўмелі гаварыць па-польску.

Графіка ў нас яшчэ не было, па заказе хіба рабіў віньеткі пан Масальскі. Валкавыцкі стараўся прыцягваць да супрацоўніцтва цікавых людзей, хоць бы дзядзьку Кваса — які пісаў хіба да свае старасці вершы, ці дзядзьку Леваня з яго фельетонамі, ці зноў Сошку з яго вясёлымі гумарэскамі. Сошка быў на штаце «Нівы», прыязджаў з Тапалян. Вясёлы быў чалавек. Часта, дыктуючы мне на машынку свае вершы, казаў:

— Ніно, выйдзі за мяне замуж (быў старэйшым кавалерам), куплю табе веласіпед, не будзеш у мяне пехатою хадзіць!

Артыкулы тыя самыя перапісвала я не раз і не два, бывала і больш. Я асабліва любіла перапісваць артыкулы Міхася Хмялеўскага, які ўмеў, як ніхто, знайсці і апісаць цікавыя жыццёвыя здарэнні. Трэба было здабыць давер сярод вясковых людзей, а ён жа і выпіць з імі чарачку, і расказаць гумарэску ўмеў. У гэтым не было роўнага Міхасю.

На пачатку паявіўся новы працаўнік,



У чэрвені 1957 г. «Ніва» гасціла Уладзіславу Францаўну Луцэвіч (сядзіць другая справа), жонку Янкі Купалы

Алесь Амільяновіч, які займаўся карэспандэнцыяй — адказваў на пісьмы на польскай мове, а яго перакладалі на беларускую. «Ніва» ад пачатку карысталася сімпатыяй у беларусаў, штораз больш прыходзіла пісем, так што Вера і Крацё мелі поўныя рукі работы, перакладаючы матэрыялы на беларускую мову.

Крацё быў цікавым хлопцам, ды малаадважным. Утрэскаўся ў Веру, сімпатычную, прыгожую, скромную і разумную. Аднойчы, памятаю, запрасіў яе на шпацыр у парк, дзе збіраў ёй палявыя кветкі. І невядома чым скончылася б гэтая сімпатыя, каб не намецці не галоўны Валкавыцкі, які неўзабаве ўкраў сэрца Веры і неўзабаве яны пажаніліся. А я са сваім Генікам (тады яшчэ не мужам) былі сведкамі на іхнім цывільным шлюбе.

Мы з Верай падружыліся ад першай сустрэчы. Я папрасіла Веру перанесціся да мяне на кватэру, бо яна тулілася ў знаёмых. І так мы пачалі жыць у маёй старэйшай сястры, удавы, у самым цэнтры горада, на Ліпавай, насупраць кіно «Покуй», дзе ў той час квітнела ўсё жыццё моладзі. Хадзілі ў кіно, сустракаліся на рандэву. Чаго больш трэба маладым дзяўчатам. Не раз тырчэлі ў акне і выглядалі знаёмых.

26 лютага адбыўся І арганізацыйны з'езд БГКТ, у будынку даўняга Таварыства польска-савецкай дружбы на рагу рынку Касцюшкі і вуліцы Сянкевіча. Я была ў абслузе з'езда. З'ехаліся беларусы важныя і менш важныя, з усёй Польшчы. Урачыcты характар з'езда памятаю да сёння. Было гэта для нас вялікае свята. Вось у той дзень я ўпершыню сустрэла Юрку Туронка і Ваську Місеюка, якія прыехалі з Варшавы. Васька пачаў працаваць у Беластоку геадэзістам. Справаздачу са з'езда меў пісаць Міхась Хмялеўскі, ды штосьці яму перашкодзіла і Валкавыцкі сказаў напісаць Веры. Заданне Вера выканала добра і таму галоўны выслаў яе ў фабрыку «Фасты» зрабіць рэпартаж аб працы ткачых. На І З'езд быў падрыхтаваны спецыяльны нумар «Нівы», з'ездаўскі. Хутка Крацё і Вера сталі журналістамі. Працавалі мы ў будынку пры вуліцы Кілінскага дзесьці да восені. Ужо будаваўся Дом прэсы пры тадышняй вуліцы Весялоўскага, 1. Мы перанесліся ў будынак пры кіно «Сірэна» пад восень. «Ніва» і БГКТ. Мы занялі вялікую залу для ўсіх працаўнікоў і малы пакойчык для галоўнага і сакратара. Сядзелі ў зале вакол сцен: Вера, Рыбінскі, Матэйчык, Баршчэўскі, Зося, якая памагала Баравіку выпраўляць матэрыялы, а часта сядала ля акна і, грэючыся на сонцы, на падаконніку пісала вершы. Далей Люба і я ляскалі на машынках разам з Алесем Амільяновічам, які даваў адказы карэспандэнтам, еўшы са смакам посныя рагалі. Потым стаў ён журналістам, пішучы перадусім аб партызанах. Чытачы любілі гэтую тэму. А на паддашку будынка жыў Валкавыцкі, які не хацеў ці не ўмеў выкарыстаць сваёй пасады, каб атрымаць кватэру. А мог бы. Побач нашай залы чыноўнічалі працаўнікі БГКТ — загадчык Аляксандр Дадзідзюк і сакратар Аляксей Казёл і іх сакратарка Ніна Парфенюк.

Памятаю, як у «Ніву» прыйшла шукаць працу маладзенькая Ада Чачуга. Толькі што прыехала з Мінска, за мужам. У шэрым плашчы-«прахоўцу» і клятчастай хустачцы на галаве, стройная дзяўчына.

Яшчэ ўвосень 1956 года наша беларуская моладзь стала гуртавацца вакол «Нівы». Пачалі сваю мастацкую дзейнасць тэатральны і танцавальны гурткі, хор. Тэатральны гурток пад кіраўніцтвам Уладзіміра Кавальчука паставіў п'есы «Пярэстая красуля» і «Паўлінка», з якімі ездзіў у іншыя гарады. Таксама выступалі хор пад кіраўніцтвам Людмілы Панько і танцавальны гурток пад кіраўніцтвам Таццяны Гіжэўскай.

## 1957 год

Настаў 1957 год. Вельмі весела наша моладзь сустракала ў зале «Нівы» новы год. Я таксама ўдзельнічала ў забаве, разам з Васем (Ромкам, як яго называлі), сваім нарачоным з «Пярэстай красулі». Зося з чорнымі кучаравымі валасамі, у белай сукенцы, пашытай хіба з фіранкі (тады ж выбару матэрыялаў не было) са сваім вайсковым нарачоным вылучалася сярод натоўпу танцораў.

У гэтай жа зале мы, маладыя, часта сустракаліся вечарамі на рэпетыцыях і танцах. Усе мы з «Нівы» былі тады халасцякамі, апрача Рыбінскага, Баравіка і Баршчэўскага. Нам з Верай было блізенька на працу. Разам раненька ішлі і разам вярталіся. Вера, тоненькая, далікатная і ўсё на высокіх абцасах. Голас яна мела цудоўны, ды танцаваць не ўмела. Тады часта я давала ёй шчотку ў рукі і дома вучыла танцаў, бывала, і да позняга вечара, аж суседка стукала ў столь. І так мы, маладыя, з беларускіх вёсак, згуртаваныя вакол «Нівы», переставалі саромецца сваіх імён, паходжання і роднай мовы. Адчулі сябе важнымі, выключнымі — усюды выступалі, спявалі, танцавалі.

Маё сяброўства з Верай узмацнялася, сталі мы для сябе як сёстры, аж да гэтых пор. Памятаю, як Вера ад'язджала ў Варшаву як дэлегатка з «Нівы» на з'езд Рускага таварыства. Паколькі не мела яна моднай вопраткі, я апранула яе ў сваю (насілі мы адзін размер) ды і падмалявала, і так мая Верачка ў Варшаве не магла адганіцца ад кавалераў. Калі вярнулася, доўга мы з ёю талкавалі пра тое.

У чэрвені «Ніва» гасціла Уладзіславу Францаўну Луцэвіч, жонку Янкі Купалы. Была яна дарагім госцем і мы зрабілі на памятку супольны здымак.

Усе мы пачалі па чарзе выходзіць замуж. Пад канец года выйшла Вера, а праз пару месяцаў я, і наша з Верай мастацкая дзейнасць закончылася. Толькі Валя са сваім мужам, таксама танцорам Барысам Жэшкам танцавалі яшчэ доўга.

## 1958 год

11 студзеня 1958 года быў для нас памятным днём. Мы пачалі працу ў новых выгадных умовах, у новым будынку прэсы. Адышлі з працы Надзежда Пятроўна, Люба Сліжэўская, Лідзія Калішэвіч, на сакратарку прыйшла Ніна Парфенюк, ды ненадоўга. Новай і доўгагадовай машыністкай (бо аж да пенсіі) стала ціхая, спакойная, добрая і шчырая Марыя Федарук. Мне з ёю вельмі добра ладзілася супрацоўніцтва ў сакратарыяце. Адны адышлі, іншыя прыходзілі. Васька Баршчэўскі і Алесь Амільяновіч перайшлі ў «Беластоцкую газету». Прыйшлі Міхась Кураш і Пётр Чэрнякевіч, ды ненадоўга. Прыйшла Ада Чачуга, была таксама Лідзія Базылюк-Варабей (Ада ў «Ніве» асталася аж да пенсіі). Потым прыехала з Мінска жонка Пятра Чэрнякевіча, Яніна. Скромная, філігранная, з валасамі звязанымі ў хвост, выклікала ва ўсіх сімпатычнае ўражанне. Спярша Яня працавала карэктаркай, заступала Валю, а потым стала журналісткай. Прыйшлі новыя журналісты: Віктар Рудчык, потым Валодзя Паўлючук і Алёша Карпюк. Былі ўжо свае графікі: спярша Ігар Кішыцкі, коратка Мікалай Валкавыцкі і на доўгія гады астаўся — Стэфан Рыбі. На доўгія гады наш калектыў затрымаўся ў такім складзе. Выйшла замуж і выехала з Бе-

працяг ☞11

# Беларуская песня ў Гарадку

**Гарадоцкія спевакі — сімвалы беларускай песні на Беласточчыне. Гэта ім прысвечаны быў спецыяльны канцэрт, сарганізаваны 28 лютага ў Гарадоцкім цэнтры культуры. На сцэне запрэзентаваліся выключна мясцовыя, у тым ліку лаўрэаты сёлетняга выпуску Фестывалю „Беларускай песня". Павіншаваць узнагароджаных рашыліся пераважна іх аднагодкі — пажылыя гарадчане.**

З гісторыяй штогадовага свята беларускай песні на Беласточчыне пазнаёміў сабраных дырэктар ГЦК Юрка Хмялеўскі. Паводле яго слоў, пачаткі мерапрыемства сягаюць 1970 года. Тады праходзіла яно ў форме агляду. На працягу апошніх дваццаці аднаго года артысты-аматары былі ўдзельнікамі фестывальнага спаборніцтва. Гэтага свята немагчыма ўявіць сабе без прысутнасці калектываў з Гарадка. З фестывалю амаль ніколі не вяртаюцца яны з пустымі рукамі. Так было і ў гэтым годзе.

Марыя Врублеўская стала пераможніцай у катэгорыі аўтэнтычнай фальклорнай песні. „Асенні ліст" вярнуўся з вылучэннем, „Рассяпваны Гарадок" здабыў трэцяе, а „Хутар" — другое, пачэснае месца.

Гарадоцкая беларуская песня гэта перш за ўсё калектыў „Рассяпваны Гарадок", якому шэсцьдзесят адзін год. З самага пачатку спявае ў ім Ірына Паўлючук. „У жывых засталася яшчэ Саша Яроцкая. Усе астатнія члены першага саставу паўміралі", — прызнаецца спадарыня Ірына. Спявачка распавяла пра тое як дайшло да ўзнікнення славутага калектыву.

— Тут, каля моста, стаіць драўляная хатка. Калісь знаходзілася ў ёй, з уваходам ад стараны вуліцы, бібліятэка і маленькая святлічка, з асобным уваходам з панадворка. У святлічцы было радыё. Ай, Божа, самыя рускія песні ляцелі, — з хваляваннем успамінае Ірына Паўлючук. — Адна такую песню запамятае, другой іншая ў вуха ўвойдзе. Паслухаць радыё прыходзіла Ліля Жукоўская, Геня Завадзкая, я і Рая Лебядзінская. Тады нам было па семнаццаць гадоў. Ніна Мушынская, першая кіраўнічка нашага калектыву, працавала сакратаром у гміне. Ад часу да часу прыходзіла ў бібліятэку. Тут вяла яна калектыўныя чытанні кніжак уголас. Пачуўшы праз тонкую бібліятэчную сцяну спеў, падышла да нас і запрапанавала праспяваць некалькі песень з нагоды 8 Сакавіка. Мы згадзіліся неадкладна. Гэта быў яшчэ лістапад. Часу, каб добра падрыхтавацца да выступлення, было дастаткова. На рэпетыцыі прыносілі мы ўсякія песні, хто што меў. 8 сакавіка 1954 года адбыўся наш першы канцэрт. З Тамарай Бурачэўскай, колішняй дырэктаркай Гарадоцкага дома культуры аднойчы паехалі мы ў Мінск. Туды запрасіў нас братні калектыў „Радуйся". Мінчане здзівіліся што мы, вясёлыя, рассяпаныя дзяўчаты, не маем назвы. Рашылі неадкладна ахрысціць нас „Рассяпваным Гарадком". І так ужо засталося.


Калектыў „Казка"

Многа куды ездзілі з песнямі гарадоцкія жанчыны, многа чаму навучыліся. Пра іх вопыт можна напісаць кніжку. Спадарыня Ірына запэўніла, што такая кніжка ўжо складаецца і неўзабаве можна будзе яе прачытаць.

Да ўдзелу ў гарадоцкім канцэрце запрасілі таксама салістку родам з Залук Галю Парфянюк. У яе выкананні прагучалі дзве даваенныя песні.

— Адну песню, „Ці я ў лесе не калінай расла", спявала калісь старая Чабаніха з Боркаў, — успамінае спадарыня Галя. — Яна ўжо памерла. Гэта было на бульбяным загоне. Ідзе на поле і спявае, кіне пару бульбін у зямлю, адагнецца і зноў спявае. Другую, хрысціянную, выдумаў адзін малады хлопец з Залук па прозвішчы Цітко, якога немцы ў вайну забілі.

Гарадоцкім ветэранам беларускай песні ў канцэрце таварышавалі мясцовыя дзеткі і моладзь, згуртаваныя ў калектывах „Казка" і „Без назвы". Кіраўнік апошняга, малады, здольны Павел Азябла быў таксама ўдзельнікам сёлетняга выпуску фестывалю. У конкурсе выступаў ён з гуртом „Самыя зоркі". Іх наватарская апрацоўка з сталі рок шлягера „Толькі з табою" не знайшла прыхільнасці конкурснага журы.

— Песню прадставілі мы па-свойму, так як гэта адчуваем, — тлумачыць Павел. — З традыцыйным варыянтам, характэрным іншым калектывам мы б проста не справіліся. Нам захацелася стварыць нешта новае на аснове вядомага. Ад фестывалю мы нічога не чакалі, для нас была гэта толькі прыгода. Спадзяемся, што іншыя пойдуць нашым следам і паявіцца больш новых аранжыровак. Самае важнае — зберагчы душу твора.

На думку Паўла сучасная інтэрпрэтацыя народнага рэпертуару толькі паспрыяе пашырэнню кола слухачоў. Сталыя аматары беларускай песні паспрабуюць нечага свежага, цікавага, а астатнім будзе нагода, каб праз любімы, музычны жанр пазнаёміцца з беларускай песняй.

Гарадоцкі канцэрт завяршыўся пачастункам і танцамі пад музыку капэлы „Хутар".

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**




Культура беларусаў — шматгранная. Ёсць у нас і аўтэнтычныя спевы, танцы, мастацтва і гэтак далей. Па вялікім рахунку, граняў у беларускай культуры настолькі многа, што немагчыма нават пералічыць усіх яе праяўленняў. Але можна засяродзіцца на чымсьці адным, даволі неардынарным. Да такога можна аднесці фольк-гурт традыцыйных мужчынскіх спеваў „Рада". Каб бліжэй з ім пазнаёміцца, варта зазірнуць на старонку фольк-гурту ў інтэрнэце, што месціцца па адрасе **www.folk.by.**

Той, хто пільна сочыць за публікацыямі „Нівы" пра беларускія сайты, магчыма, адразу ўзгадае 31 мая 2009 года, калі быў надрукаваны артыкул з аналагічным загалоўкам. Але ў ім гаворка ішла не столькі пра гурт, колькі пра праект папулярызацыі беларускага фальклору. І выгляд ён меў зусім іншы. Таму ніжэй пойдзе не толькі пра гурт, але і пра рэстайлінг цікавага сайта.

Першая старонка абноўленага сайта музыкаў выглядае прыгожа і даволі сціпла. У вочы адразу кідаецца фотаздымак у чорна-белым выкананні траіх мужчын і адной жанчыны. Апранутыя ў народныя строі, яны стаяць у полі, пакрытым туманам. На фотаздымку словы „Пазнаёміцца з намі", якія з'яўляюцца выйсцем на іншую старонку сайта, дзе распавядаецца пра членаў гурту, яго творчыя дасягненні, гісторыю ўзнікнення і дзейнасці. Менавіта ў рубрыцы „Пра гурт" мы даведаемся, што існуе ён з 2006 года, а яго арганізатарам з'яўляецца Васіль Грынь. У склад гурту ўваходзяць чатыры чалавекі, якія, пэўна знаходзяцца на вышэйзгаданым фотаздымку.

„Шырокая папулярызацыя і адраджэнне традыцыйнай спеўнай і музычнай культуры Беларусі", — так акрэсліваюць мэту сваёй творчасці музыкі, асноўная частка рэпертуару якіх сабраная імі падчас уласных экспедыцый.

Згодна пададзенай на сайце інфармацыі, „Рада" даволі часты госць на Падляшшы. Так, у снежні 2008 года гурт прыняў удзел у Конкурсе ігры на пастухоўскіх інструментах імя Казіміра Ушынскага ў Цеханоўцы, а ў маі 2009 года — у фестывалі „Там по маёвуй росі" ў Студзіводах пад Бельскам. Там ён прадставіў вакальную праграму паводле ўласных экспедыцый на Палессе.

Выступленні фольк-гурту з Беларусі і летась праходзілі ў Польшчы. Так, у жніўні музыкі выступілі на канцэрце традыцыйнай рэлігійнай песні ў фарным касцёле айцоў дамініканцаў у Любліне.

Пра тое, што спявае „Рада", можна даведацца на старонцы „Песні". У прадстаўленым пераліку амаль сорак кампазіцый. Праўда, праслухаць іх на той старонцы магчымасці няма. Затое там жа падаюцца гіперспасылкі на сайты, акурат прызначаныя для праслухоўвання музыкі і спеваў, — гэта Grooveshark, LastFM, Soundcloud і MySpace.

Канешне, зацікаўленаму карыстальніку было б цікава бліжэй пазнаёміцца з тым, як праходзяць экспедыцыі музыкаў у вёсцы, дзе яны збіраюць матэрыял для сваіх песень. На жаль, пазнаёміцца не ўдасца, бо старонка „Экспедыцыі" пакуль яшчэ ў стадыі распрацоўкі.

Затое можна паглядзець фотаздымкі з экспедыцый і відэа пра ўдзел гурту ў разнастайных канцэртах. Для гэтага трэба „зайсці" на старонку „Фота/Відэа".

Каб усталяваць нейкую сувязь з „Радай", трэба паглядзець у ніз кожнай старонкі, дзе месціцца іх тэлефон і э-мейл. Бо музыкам, як яны самі пішуць, залежыць на тым, каб пра беларускую культуру было вядома як мага болей і як мага большаму колу людзей.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

### Пясняр са Случчыны

# 100 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Клішэвіча



Уладзімір Клішэвіч, беларускі паэт і публіцыст нарадзіўся 12 сакавіка 1914 г. у вёсцы Краснадворцы на Случчыне (цяперашні Салігорскі раён). Скончыў Старобінскую сямігодку, пасля вучыўся на Слуцкіх настаўніцкіх курсах, рабфаку БДУ, на літаратурным факультэце Мінскага вышэйшага педінстытута (цяпер Беларускі педагагічны ўніверсітэт імя М.Танка), дзе ў 1933-1936 гг. вучыліся многія, пазней вядомыя паэты. Большасць з іх сталі ахвярамі бязлітасных сталінскіх рэпрэсій. Быў арыштаваны і Клішэвіч, яго засудзілі да 10 гадоў сталінскага канцлагера. Амаль пяць гадоў малады паэт адпакутаваў на калымскіх капальнях. У 1940 г. ён, Масей Сяднёў і Тодар Лебяда былі прывезены ў Мінск на перагляд справы. Шэрагу літаратараў тады пашчасціла цудам ацалець.

Першыя юнацкія творы Клішэвіча друкаваліся з 1931 г. у слуцкіх газетах. Вершы падтрымлівалі яго ў Мінскай турме, на перасыльных этапах, калі маладому паэту згадваліся дарагія сімвалы далёкай Радзімы. Вярнуўшыся ў родную вёску, Уладзімір доўгі час адыходзіў ад пражытага. Аднак душа паэта зноў пачала ажываць.

Вяртанне з ГУЛАГу было бязрадасным, бо наўкола была вайна, зноў на Радзіме гаспадарылі чужынцы. Клішэвіч працаваў у „Слуцкай газэце", што паводле савецкіх законаў лічылася здрадай. Трагедыя ГУЛАГу і трагедыя вайны ў творах Клішэвіча першапачатковага перыяду творчасці зліваюцца ў адно. Цяжкія песімістычныя настроі абумоўлівалі і мастацкую палітру яго вершаў. У час вайны разам з Лявонам Случаніным і Янкам Золкам Клішэвічу ўдалося выдаць зборнік „Песьняры Случчыны". Ён таксама друкаваўся на старонках „Беларускай газэты", „Голасу вёскі", „Раніцы", у часопісе „Новы шлях" і ў мясцовай „Газэце Случчыны".

З 1944 г. у жыцці паэта настаў эміграцкі перыяд. Трапіўшы спачатку ў Германію, потым пераехаў у ЗША (1948), працягваў пісаць. Давялося нанова пачынаць жыццё ў чужой краіне, дбаць пра матэрыяльны дабрабыт сям'і, у якой было трое сыноў. Жылі напачатку ў Нью-Йорку (Бруклін). Пазней Клішэвіч уладкаваўся на фабрыку, цяжка працаваў, амаль не ставалася часу на кнігі і творчасць.

Клішэвіч імкнуўся актыўна ўдзельнічаць у беларускім эміграцкім жыцці. Ён рэдагаваў часопіс „Беларус у Амэрыцы", быў сябрам згуртавання „Шыпшына", лічыў, што беларусам трэба гуртавацца. Пасля ўтварэння радыё „Вызваленьне" (цяпер „Свабода") пісаў для яго артыкулы. У пачатку 1950-х гадоў Клішэвічы пераехалі ў Каліфорнію (Лос-Анжэлес), затым удалося ўладкавацца ў адным з каледжаў г. Блумінгтон, дзе ва ўніверсітэце працавалі і Масей Сяднёў.

Вершы Клішэвіча розных гадоў друкаваліся на старонках эміграцкіх часопісаў. У часопісе „Шыпшына" Клішэвіч апублікаваў верш Тодара Кляшторнага „Сад", вынесены ім з Мінскай турмы пасля расстрэлу гэтага таленавітага паэта. Многія вершы Клішэвіча ўвайшлі ў анталогію беларускай паэзіі, выдадзеную ў Мюнхене (1955) пад назваю „Ля чужых берагоў".

У пачатку 1970-х гадоў Клішэвіч прыязджаў у БССР як турыст. Ён імкнуўся знайсці паразуменне з савецкай уладай, за што многія з беларускай эміграцыі страцілі да яго павагу. Непрызнаны Бацькаўшчынай, зняважаны эміграцыйным друкам, паэт памёр ад сардэчнага прыступу ў 1978 г. Апошнія вершы яго былі звернутыя да Маці-Беларусі.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

9 ☞працяг

# Успаміны маладзенькай машыністкі

ластока Зося. Неўзабаве ажаніўся і Віктар.

Галоўны задумаў, каб у «Ніве» прысвяціць куточак школьнікам, у якім друкавалі апавяданні і вершыкі дзецям. Праз нейкі час «нарадзілася» «Зорка». Вяла яе Вера Леўчук-Валкавыцкая. Многа пісем, вершаў прысылалі школьнікі. Калі Вера перайшла на публіцыстку, «Зорку» абняла Яніна Чэрнякевіч і засталася ёй вернай аж да пенсіі.

Усе мы адчувалі сябе ў «Ніве» як адна сям'я. Калі нараджаліся ў нас дзеці, разам хадзілі ў адведкі, разам святкавалі дні нараджэння, гадавіны, танцавалі, спявалі. Вядома, мы, беларусы, любім спяваць.

Штогод рабілі сустрэчу ў «Ніве» са сваімі карэспандэнтамі. Вера падсумоўвала карэспандэнцыю з усяго года, а потым пры сустрэчы была абмяркоўка, а затым пачастунак у клубе «Седмію» пры гарбаце і каве, якую заварвала нам акуратная кавярка Галенка. На заканчэнне былі песні, хоць бы «Ой бярозы ды сосны...». А галасы мелі добрыя: Вера, Валкавыцкі, Карпюк, Паўлючук і я.

Валкавыцкі, як сур'ёзны шэф, штодзень, на сустрэчах, як сябра — сярод журналістаў. Не было ў нас падзелу, хто журналіст, а хто працаўнік адміністрацыі. І бацькі нашы заходзілі ў «Ніву» як да сваіх, прыходзілі і знаёмыя. Помню, як прыходзіў наведваць сваіх вучняў настаўнік (ужо на пенсіі) Ілля Бернат. Успамінаў ён сваіх вучняў, ганарыўся імі. Штотыдзень, у панядзелак, прыходзіў у рэдакцыю ваяводскі суддзя Вінцук Склубоўскі і даваў бясплатныя юрыдычныя парады людзям. Таксама друкаваў ён у «Ніве» «Парады юрыста», адказваючы на пісьмы чытачоў. Штодзённа наведвалі нас і карэспандэнты, асабліва Міхася Хмялеўскага па справах. Ён кожнаму быў рады і дапамагаў. Любіў і жаніць знаёмых, пасватаў аж 19 пар!

А Віктар Рудчык любіў пісаць доўгія артыкулы, а пасля скарачэння тэксту галоўным я зноў перапісвала нанова матэрыял, што мне не вельмі падабалася. Ды ніхто не ўмеў так добра развязваць чыноўніцкіх спраў, як Алёша Карпюк. А Валодзя Паўлючук любіў філасофстваваць. Коратка быў журналістам Мацей Канапацкі, вясёлы, сімпатычны, інтэлігентны. Аднойчы расказаў нам, як у паездцы ў вёску па матэрыялы гасцяваў у гаспадара. Кажа: паставілі на стале міску з ежай, папрасілі мяне і ўсе мы елі з адной міскі. Гумару яму таксама хапала. Калі я нарадзіла ў шпіталі дачушку, Мацей прыбег з букетам свежых белых кветак, зараз за маім мужам, які прынёс мне такія самыя, толькі ружовыя. А зімою ў тыя часы свежыя кветкі было цяжка дастаць. Ды потым Мацей жартаваў са мною, пытаючыся, як расце «яго дачушка». Мілы жэст, праўда! Потым Мацей рабіў беларускія радыёперадачы.

Раніцай усе мы любілі заходзіць на першы паверх у клуб «Седмію» і выпіць свежанькую каву з кававаркі. Я ж не журналіст і мне не выпадала ў час работы заглядаць у клуб. Я ўсё ж далучалася да сяброў-журналістаў, а часам і да знаёмых. І працу сваю на час выконвала, і каву ў клубе выпіла, і шэфу ніколі не «падпала».

Аднойчы паклікаў мяне Валкавыцкі і загадаў весці мне новую рубрыку для моладзі «Сэрцайка». Спадабаўся куточак маладым (часам і старэйшым), пачалі пісаць і прасіць парад у сардэчных справах, а некаторыя і прыязджалі ў рэдакцыю на сустрэчу. Калі я адышла з «Нівы», доўгія гады «Сэрцайка» вяла Ада Чачуга. Куток «Пазнаёмімся» ў «Зорцы» таксама вельмі добра прыняўся. Друкаваліся ў ім лісты школьнікаў не толькі нашых, але і з Беларусі. Вучні нашых школ перапісваліся паміж сабою, знаёміліся.

Усе мы, маладыя, задумалі здабыць вышэйшую адукацыю, якая была тады ўжо проста абавязковай. Віктар і Сакрат пайшлі на паланістыку, Валодзя і Алёшка — на сацыялогію, а мы з Верай — на гісторыю. Усе завочна, у Варшаўскі ўніверсітэт. Калі вярталіся з заняткаў, на працы было аб чым паталкаваць, пасмяяцца з усялякіх сустрэтых там прыгод. Толькі Валкавыцкі наракаў, што ўсе вучацца, а працаваць няма каму. Аднак усіх нас у вучобе падтрымліваў...

*(працяг будзе)*

**Ніна БРУЧКО**



Дзеці з Дубіч-Асочных у рэдакцыі „Зоркі”, 1959 г. На заднім плане першая справа — Вера Леўчук Валкавыцкая



# 16.03 — 22.03

**(22.03. — 20.04.)** Самотныя Бараны могуць знайсці сваю пару. Да 20.03. твой настрой і самаадчуванне яшчэненайлепшыя. Пасля 20.03. адчуеш сябе молада, бадзёра, поўны энергіі і ахвоты да жыцця. Удасца табе маланкава трапна вырашыць справу. Але поўня Месяца 16.03. можа цябе расстроіць, могуць адазвацца старыя нямогласці, адпачывай.

**(21.04. — 21.05.)** 16-20.03. паявяцца нагоды паказацца, правесці справы па-свойму. Не пераймайся заўвагамі. Пасля 20.03. удасца табе апанаваць нейкую справу звязаную з сям'ёй і справамі сяброў. Вельмі добры час на мадыфікацыю дыеты 16-20.03. — да печыва падрыхтуй сабе агароднінныя пасты. У гэты час здарыцца таксама штосьці неспадзяванае ў кар'еры, фінансах. Спачатку можаш пабаяцца выкліку, але шмат навучышся. Хуткія фінансавыя рашэнні; захавай прытым максімальную асцярожнасць.

**(22.05. — 22.06.)** Ашчаджай свой стрававальны шлях. Не раскідайся грашыма. 20-24.03. магчымыя памылкі і непаразуменні на працы і ў фінансах. Не купляй не вельмі неабходных рэчаў, не шалей па рэстаранах. 16.03. паявіцца нагода, дзякуючы якой справы ўбачыш у іншым святле, даспееш да здаўна адкладаваных рашэнняў. 20-24.03. чакаюць дробныя перашкоды.

**(23.06. — 23.07.)** Будзь вельмі асцярожны ў час поўні Месяца 16.03. Могуць пагарэць твае планы. Усё высветліцца, ды неабавязкова ў тваю карысць; не вырашай нічога неабдумана. Да 20.03. выдатны настрой, добры час каб дбаць аб здароўе і кандыцыю. Можаш пачаць браўца за новыя выклікі; не старайся быць спрытнейшым ад тых, хто мае большыя веды і вопыт.

**(24.07. — 23.08.)** Знакаміты настрой і ўмеласць бачання выключна светлых бакоў жыцця. На гэтым тыдні шмат чаго да работы, але не прабуй зрабіць усяго адразу. Хосцьці ці штосьці будзе сур'ёзна залежаць ад твайго меркавання і ад прыманых табою рашэнняў. Скарыстай стварыўшайся перавагай, не слухай падмоў і рабі так, як выгадна табе.

**(24.08. — 23.09.)** 20-24.03. з нічым не вырывайся. Здарэнні ў сям'і і сярод сяброў прыспешацца, можа дайсці да благіх супадзенняў, хтосьці кагосьці можа пакрыўдзіць; ты будзеш на месцы ў любой сітуацыі. Папраўіцца імуннасць твайго арганізма. Але не насі цяжкага, бо можаш звіхнуць нагу, сарваць цягліцы ці сухажыллі, дбай таксама аб рукі.

**(24.09. — 23.10.)** На жаль, згубныя прывычкі могуць даць плён у прыкрых выніках. Падбай аб сілу цягліцаў і пазваночніка, расцягвай іх, рабі больш гнуткімі. 16-20.03. развяжаш старую праблему. Будзеш мацнейшы, больш рашучы, справы рушаць поўнай парай. А твой апетыт на поспех падрасце! 21.03. паявіцца нагода, каб вырашыць ключавыя сямейныя справы; варта ўвесці новыя прынцыпы, змяніць тое, што здаўна мяшае.

**(24.10. — 22.11.)** Новыя магчымасці, адкрытасць на неканвенцыянальныя прыёмы, умеласць знайсці выхады з кожнай сітуацыі. Але 16.03. трымайся здалёку ад фінансавых, падатковых спраў; можаш згубіць кашалёк або абкрадуць цябе. Старайся рэалістычна ацэньваць іншых, не прыпісвай ім благіх намераў. З некаторымі асобамі трэба будзе палічыцца, правесці сур'ёзныя размовы; часам пастаўленне спраў рубам прынясе ацвярэзенне і новыя вырашэнні. Хадзі на доўгія шпацыры.

**(23.11. — 22.12.)** 16-20.03. цяжка будзе цябе падчапіць на кручок (любоўны). 21-25.03. будзеш пакутаваць татальным недахопам часу. Не будзеш мець часу на непрадуманыя пакупкі і спантанныя паходы ў горад, дык твой кашалёк не схуднее. Выберы канкрэтную мэту, паявяцца эфекты.

**(23.12. — 20.01.)** Знойдзеная ў гэты перыяд замежная манета прынясе табе поспех ва ўсіх справах. Прыйшоў час рэалізаваць старыя планы. Любое супрацоўніцтва вельмі выгаднае. Рыхтуйся да новых сустрэч і раманаў. Дзейнічай актыўна і рашуча: зараз маеш усе шанцы заявіць пра сябе і прыкметна прасунуцца ў кар'еры.

**(21.01. — 19.02.)** Незалежна ад магчымых праблем у здароўі — знакамітая псіхічная форма, дык і лячэнне будзе больш паспяховым. У працы і ў фінансах будзеш мець выдатнае адчуванне сітуацыі, рассакрэціш намеры, не памылішся. Лёгка ажыццявіш свае задумы. 16.03. спрэчкі, не падпісвай дамоў.

**(20.02. — 21.03.)** Ад 17.03. шмат тваіх спраў рушыць з месца. Будзеш баявіты, паспяховы, лёгка развінеш крылы, зрэалізуеш свае задумы. А ў фінансах паможа табе Меркурый. З 20.03. можа ў тваіх планах перашкодзіць партнёр.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| | | | | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| | | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |

Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. вялікая драпежная марская рыба = 5 _ 21 _ 7 _ 13 _ 10 _;
2. узорысты варсісты выраб, якім засцілаюць падлогу = 23 _ 16 _ 2 _ 12 _ 26 _;
3. паласа, напрыклад прыгранічная = 11 _ 19 _ 27 _ 28 _;
4. разлітая, напрыклад на падлозе, вадкасць = 18 _ 22 _ 20 _ 14 _;
5. вызначаны час для нейкай падзеі = 15 _ 25 _ 24 _ 17 _ 8 _ 9 _;
6. хімічны элемент н-р 24 = 1 _ 4 _ 3 _ 6 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 7 нумара**

Воўна, Дузе, муць, рычаг, Сухі.

Рашэнне: **Не ўсіх гады вучаць розуму**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.


Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2014 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

**Зараз за Гайнаўкай, па шашы ў бок Кляшчэль, кіпіць работа. Бульдозеры, экскаватары, самазвалы рыхтуюць новы, пашыраны насып, каб замяніць моцна стомленую асфальтоўку новым, больш сучасным дарожным вырабам. Ад Гайнаўкі да Дубіч-Царкоўных побач дарогі некалькі невысокіх земляных тэрыконаў. Злажу з аўтобуса ў Дубічах і кіруюся да мураванкі нашага даўняга супрацоўніка Мікалая Панфілюка, якога ўжо трэба лічыць не толькі многа чуўшым, але і многа бачыўшым старажылам. Хачу распытаць у яго як пабудова гэтай дарогі захавалася ў ягонай памяці...**



# Крыху новая дарога

Daleko, gdzieś pod Kleszczelami, prawie na 20 kilometrze, pracowała jeszcze inna grupa. To porozbierani do koszul chłopi z gromady Makówka, spółdzielcy oraz indywidualni, którym do roboty przygrywali dwaj harmoniści: Leszczyński z Makówki i Naumczyk z Chrabostówki.

Але дзверы ў Панфілюковы дом пад ключом. Разглядаюся па панадворку, але і там не чуваць ніякага жывога дыхання. Але затое які там нацюрморт! Панадворак той крыху нагадвае мне іспанскае *patio*, толькі замест мураваных сцен агароджы красуюцца там аздобленыя адмыслова складзенымі кастрамі сцены гаспадарчых будынкаў. Усюды парадак і чысціня — незвычайны антураж проста акрыляе душу...

Вяртаюся на вуліцу і распытваю пабачанага на суседнім панадворку мужчыну, ці не ведае, куды дзеліся ягоныя суседзі. Не ведае; мог бы Мікалай Панфілюк пайсці ў лес, які крышку цярэбіць, але надвор'е сырое, неспрыяльнае такой рабоце. Пытаю яго, ці ён што помніць пра першапракладку рамантаванай побач вёскі шашы. Помніць, што працаваў там бульдозер. Гэта малавата, і прабую даведацца, ці можа ён падказаць, хто ў вёсцы мог бы больш расказаць пра цікавячую мяне даўніну. Мой суразмоўца прасвятляе сваю памяць, але безвынікова.

— А вось і Панфілюкова жонка! — інфармуе мяне пра вядучую веласіпед жанчыну.

Спадарыня Панфілюкова паведамляе мяне, што муж паехаў у Гайнаўку афармляць справы, а калі, на якім аўтобусе вернецца — складана прадбачыць. Шкадую, што не патэлефанаваў я загадзя, каб дамовіцца, але мая субяседніца адказвае, што яны зліквідавалі правадны тэлефон; цяпер у іх толькі мабільнік:

— Не давалі спакою, усё чагось званілі, намаўлялі. А наш нумар быў падобны на адзін банкаўскі нумар, то часта бывала, што нам званілі, каб заблакіраваць чыйсь рахунак. Надаела гэта.

Сама спадарыня Панфілюкова не магла расказаць мне пра кляшчэлеўска-гайнаўскую шашу, бо тады жыла яна яшчэ ў Рудутах, адкуль яна родам. Падаўся я далей на вёску, разлічваючы на нейкую ўдачу. Пажылы мужчына, якога я неўзабаве спаткаў на вуліцы, мабыць не меў ахвоты на гутарку з незнаёмым мною, спасылаючыся, што ён там нетутэйшы. Але жанчына, што акурат стаяла побач, каля брамкі на свой панадворак, зацікавілася справай, але яна таксама нямнога мне магла сказаць, бо яна ў той час жыла ў Тафілаўцах. Але дарогу клалі на новым месцы, бо раней з Дубіч у Грабавец была толькі дарога, што выходзіць ад царквы.

Нямнога захавалася ў памяці дубіцкіх жыхароў звестак пра шашу, на якой сёння кіпіць работа нашымі правінцыяльнымі тэмпамі. Але ўдалося мне, усё ж такі, знайсці інфармацыю пра яе пачаткі, у „Беластоцкай газеце"...

— У нядзелю, 15 мая 1955 года, — пісала газета — грамадства Гайнаўскага павета прыступіла да вялікага грамадскага пачыну — пабудовы 24-кіламетравага адрэзка дарогі, спалучаючай Гайнаўку з Кляшчэлямі, якая адменіць 60-кіламетравы аб'езд з Гайнаўкі праз Бельск у Кляшчэлі. З самага досвітку рухаўся праз Юдзянку тлум людзей: пешаходы, веласіпедысты, фурманкі і цэлыя калоны самаходаў, напоўненых бітком людзьмі з лапатамі. Пры пабудове дарогі, якая пойдзе з Гайнаўкі праз Юдзянку, Пасечнікі-Вялікія, Грабавец і Елянку, намечаны сярод палёў, лясоў і балоцістых лугоў, у першы дзень вялікага пачыну працавала больш васьмі тысяч асоб — рабочых з гайнаўскіх фабрык, моладзі, сялян з усіх грамад ды прадстаўнікоў войска; члены Калектыўнага гаспадарства імя маршала Ракасоўскага з Чыжоў працавалі разам з салдатамі. Яны ўсе за дзень перавалілі каля трыццаці тысяч кубаметраў зямлі на палотнішча новай дарогі. Складае гэта трыццаць адсоткаў планаванага аб'ёму земляных работ. 22 ліпеня па жвіровым і брукавым палатне новай дарогі праедзе не адна сялянская фурманка, не адзін самаход ці матацыкл...

Столькі тагачасная газета. Да таго ж трэба дадаць, што тады сама быў сфармаваны Гайнаўскі павет, у якім не было дарог з яго галоўных мясцовасцей у новы цэнтр і трэба было пільна іх пракладваць. У той час была пракладзена і новая 13-кіламетровая дарога з Навасад у Нарву, якая зараз злучае Гайнаўку з Беластокам.

Дарогу з Гайнаўкі да Кляшчэль павялі па прамой, праз лясы і палі; праз сялянскія палі. А гэта напэўна было звязана з выразкай пад гэтую дарогу палос праз угоддзі зямлі-карміцелькі, за якія, магчыма, некаторыя ахвярна адстойвалі, мо нават раней судзіліся. Як адбывалася трасіраванне, якія гэтай дзейнасці спадарожнічалі эмоцыі — тадышняя газета не пісала. Дарэчы, быў гэта час наступу на прыватную зямельную маёмасць, быў курс на калектывізацыю. Небяспечна было і адстойваць нейкія свае меркаванні...

А я спытаў яшчэ сваю суразмоўніцу, дзе тут знаходзіцца спажывецкая крама і даведаўся, што адна насупраць бара, а другая крыху далей. Тая першая крама аказалася быць не надта прывабнай, з даволі дзіўна прызакрытай вітрынай і я не асмеліўся туды заглядаць. Зараз дагнаў я і таго негаваркога мужчыну, сама перад наступнай крамай, насупраць якой малітоўны дом баптыстаў.

— Многа тут моліцца людзей? — спытаў я яго.

— Ну, моляцца.

— Будзе з дваццаць?

— Будзе, будзе.

— З Дубіч яны?

— З Дубіч, з Палічнай, — адказаў і адвярнуўся.

Дубіцкая крама, што насупраць малітоўнага дома баптыстаў, здаецца быць пераходнай стадыяй паміж даўнейшымі нашымі, яшчэ дамайсенеўскімі, вясковымі крамамі і нейкай песімістычнай будучыняй. Разлічана яна на надта непатрабавальнага пакупніка: тавару там — так мне здалося — толькі неабходная колькасць ды і асвятленне яе мінімальнае...

Крыху далей вясковы парк з помнікам Чырвонай Арміі, на якім свежыя штучныя кветкі. Перад дубіцкай царквою новы валун, пастаўлены ў палове мінулага года ў гонар 460-годдзя храма.

Незвычайна выглядаюць дубіцкія могілкі. Кідаюцца ў вочы цэментныя крыжы аднолькавага дызайну, памаляваныя ў большасці сіняй фарбай. Гэтая аднароднасць як жа просценька тлумачыць раўню ўсіх перад непазбежнасцю Вечнага Суда, не тое, што цяперашні разнабойныя намагільнікі. І тыя крыжы, даўняга дызайну і такога ж саліднага выканання, несакрушальна трываюць дзесяцігоддзямі.

Кіруюся ў бок Орлі, мінаючы і Рутку, і Рудуты. Апошняя вёска распалажана на левым беразе Арлянкі, дзе, мабыць, больш ураджайныя землі, а яе патойбаковая частка, могілкі, з правага боку ракі, дзе шмат лесу, дзе менш якасная зямля. Заглядаю на могілкі, шукаю магілы Янкі Крупы. Сціпленькая яна, са здымкам славутага нашага ахвярнага культурнага асветніка, з імем ужо ў фальклорна-царкоўнай версіі. Сціпленькая яна, бо і сам жыццёвы шлях пакойнага быў сціплы — не было яго ва ўрачыстых прэзідыумах, не гаварыў ён палымяных прамоў, толькі займаўся карпатлівай арганічнай працай, якая дала плён ягонаму і чарговым пакаленням...

Недзе ў палове дарогі між Рудутамі і Орляй стэнд, пастаўлены Бельскім надляснііцтвам, з інфармацыяй пра прыродна-адукацыйную дарожку. І шлагбаўм перад гэтай дарожкай... Можна гэта лічыць свайго роду парадоксам, дзе запар заахвочванне і забарона. Але тая забарона апраўданая — той шлагбаўм на тое, каб народ не вазіў у лес непатрэбшчыны, не рабіў на прыродзе дзікіх звалак.

У Орлі крыху змен у параўнанні з маім ранейшым там прабываннем. Заміж колішняй крамы з гаспадарскімі таварамі цяпер гасцявальная ўстанова для сямейных урачыстасцей; вядома, якія сямейныя ўрачыстасці ладзяцца ў наш час у вясковым асяроддзі.

Славутая арлянская сінагога, якая, бывала, гадамі падгнівала ад працякаючага даху, зараз падгнівае ад фундаментаў. І гледзячы на тую сумную сінагогу наведала мяне гэтаксама сумная думка, што зорны час Орлі супадаў з зорным часам менавіта сінагогі. Гэта не толькі пра Орлю. Пакуль тут былі жыды, быў тут і мясцовамy насельніцтву занятак, а цяпер — маладыя людзі выязджаюць шукаць працы туды, дзе цяпер старазапаветныя...

Спажывецкая крама паблізу сінагогі вельмі падобная на згаданую раней краму ў Дубічах — яна таксама разлічана на непатрабавальнага карыстальніка. Гмінны асяродак культуры гэта — гледзячы на будынак пад гэтай шыльдай — здаецца быць толькі шыльдай. І проста нейкім парадоксам здаецца тое, што за гэтымі сціплымі сценкамі бурліць цалкам прыстойная культурная дзейнасць.






**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960